PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2214) Год XLIII Беласток 18 кастрычніка 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Як будзілі Гайнаўку

Сталася ўжо традыцыяй, што кожныя выбары папярэджвае фестываль балбатні і дэмагогіі, якія шырокім ручаём плывуць у тэлебачанні, па радыё, у прэсе і ўсялякіх „святых" месцах. Усё гэтае адбываецца з удзелам кандыдатаў і іх сяброў па інтарэсах. Два тыдні да выбараў страх было ўжо ўключаць тэлевізар ці радыё, таму што там найчасцей чакалі цябе нейкія тыпы, на якіх якраз найменш хацелася б глядзець ці слухаць іх абяцанні.

Найвышэйшы ўзровень дэмагогіі дасягнула аднак беластоцкае выданне „Gazety Wyborczej", прадстаўляючы перадвыбарчую атмасферу ў Гайнаўцы. У 229 нумары „Gazety" быў надрукаваны артыкул пад загалоўкам „Obudzić Hajnówkę", у якім нейкі таварыш-журналіст, падпісаны „Jul", піша, спасылаючыся на ананімнага інфарматара, што адзінай прычынай дзеля якой жыхары горада запісваюцца ў партыі — падзел на фанатычных католікаў, якія маюць сваё радыё „Марыя", і беларускіх нацыяналістаў, якія змагаюцца з католікамі на хвалях радыё „Вольная Беларусь". Тут робіцца амаль Югаславія — істэрычным тонам б'е на трывогу „Gazeta Wyborcza". Добрыя грамадзяне Гайнаўкі, — паводле газеты, — запісваюцца ў СЛД, а для самых найлепшых узнік выбарчы камітэт „Разам", які, як неафіцыйна вядома, гуртуе нешматлікую групу членаў Уніі вольнасці.

Аказваецца, што ўяўное радыё „Вольная Беларусь", якое на сваіх старонках стварыла варшаўская рэдакцыя „Gazety Wyborczej", добрае на кожную нагоду. Раптам аб'явілася яно ў Гайнаўцы як паралельная прапагандысцкая ўстанова для каталіцкага радыё „Марыя" і вядома, што абслугоўваюць яго самыя ярыя беларускія нацыяналісты. Невядома пакуль, дзе яно знаходзіцца. Газета не інфармуе аб гэтым. Спачатку падумалася мне, што можа ў музеі, але не, там жа знаходзіцца штаб слушнай палітычнай сілы — СЛД. Дзе ж тады маглі прыхавацца тыя беларускія нацыяналісты разам са сваім радыёвяшчаннем? Можа ў ліцэі, у якім моладзь вывучае беларускую мову. Там жа на нейкі час адрэзалі электрычнасць, а вядома — нічога не дзеецца без прычыны, як у свой час гаварыў Іосіф Вісарыёнавіч. А можа нацыяналістычны цэнтр стварыў Мікалай Бушко ў сваім доме культуры? Варыянтаў шмат. Маглі беларускія нацыяналісты, па традыцыі, прыхавацца ў Белавежскай пушчы, там таксама засадзіць рэдакцыю радыё „Вольная Беларусь", перадачы якой так добра чуюць рэдактары „Gazety Wyborczej" і іхнія гайнаўскія інфарматары!

Усё гэта было б можа і смешным, але не хочацца смяяцца, калі падумаеш, як гэтым бедным беларускім людам маніпулюе кожная палітычная групоўка, якая рвецца да ўлады. Гэта бессаромнае ашуканства або, як кажуць палякі, чыстая „hucpa".

**Яўген Мірановіч**



*Наваградчына. Двор, у якім жыў Адам Міцкевіч.*

# Міцкевіч: зямля, культура, памяць

**З прафесар Альжбетай ФЕЛІКСЯК, загадчыкам Кафедры тэорыі і антрапалогіі літаратуры пры Інстытуце польскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку, гутарыць Ада Чачуга.**

***— У верасні адбылася III Міжнародная канферэнцыя „Вільня і зямля Міцкевічаўскай памяці", якая адкрыла на Беласточчыне святкаванне Года Міцкевіча ў сувязі з двухсотгоддзем з дня яго нараджэння. Вы былі старшынёю аргкамітэта гэтай канферэнцыі. Скажыце, калі ласка, якая была яе галоўная мэта?***

— Мы даследуем польскія традыцыі гэтых земляў, земляў Вялікага княства Літоўскага. Гістарычная прастора змяншалася, але заставалася там польская памяць. У 1989 г. адбылася першая канферэнцыя ў рамах тэмы: „Чалавек на памежжы культур", на якой нарэшце дайшла да голасу „крэсавая" памяць.

***— У сваім дакладзе „Зямля Міцкевічаўскай памяці: забыванне і вера" Вы назвалі яе „зямлёю многіх народаў", або інакш: „усіх і нікога". Для беларускіх даследчыкаў спадчыны Адама Міцкевіча яго „родны край", „Літва", Навагрудчына былі і ёсць беларускай зямлёю. Міцкевіч, лічаць яны (А. Мальдзіс, прадмова да кніжкі „Адам Міцкевіч і Беларусь", Мінск, 1997 г.), будучы спадчыннікам Вялікага княства Літоўскага, словы „Літва" і „літоўскі", разумеў не столькі ў этнічным, колькі ў гістарычным сэнсе.***

— Зямля вызначаецца паводле культуры, гістарычнай памяці. Міцкевіч адназначна меў польскую тоеснасць і так дэкляраваў сябе. Гэта зямля дзякуючы Міцкевічу насычана польскай памяццю. Ва ўяўленні паэта яна атаясамліваецца з памяццю Вялікага княства Літоўскага, якое было шматнацыянальным кангламератам.

Міцкевіч пачынае, як гэта сёння гаворыцца, ад „малой айчыны". Ясна, што найперш чалавек мусіць мець дзесьці свае карані...

***— Дык я ж пра гэтыя карані і гавару. Бо ўсё ж такі, будучы польскім паэтам, ён, як сцвярджае (там жа) Адам Мальдзіс, прызнаваўся ў любові да той зямлі, дзе нарадзіўся і ўзрос, дзе адчуў прыгажосць навакольнага свету, дзе далучыўся да народных песень і казак, творча выкарыстаных потым у баладах і „Дзядах". І далей: „Ён усведамляў адметнасць гэтага атачэння (можа, не столькі этнічную, колькі саслоўную) ад таго шляхецкага асяроддзя, да якога належаў сам. Але, як паказаў польскі даследчык Анджэй Кэмпфі, у перапісцы з сябрамі, у „Дзядах", у артыкулах для „Pielgrzyma Polskiego" дакладна называў імя народа, ад якога не аддзяляў сябе, — народа „беларускага".***

— А ў вершы да Іяхіма Лялевеля піcаў: „Żeś znad Niemna, żeś Polak, mieszkaniec Europy..."

***— Ізноў спашлюся на Мальдзіса: „... патрыятызм Міцкевіча — з'ява складаная, «шматслойная»".***

— Міцкевіч — прозвішча з-над Нёмана, але выхаваны ён быў у духу польскасці. Давайце не будзем дыскутаваць пра зямлю, а будзем гаварыць **пра памяць**. Раз зямля была адных, раз — другіх. Дзяржаўныя межы — умоўныя. Істотная тут свядомасць, дэкларацыя. Для палякаў тая зямля была польская, для беларусаў — беларуская. І з гэтым трэба пагадзіцца. Зрэшты, дамінуючай культурай была польская культура. Спрэчкі наконт Міцкевіча толькі непатрэбна ўзбуджаюць людское ўяўленне, падбухторваюць. Дзякуючы Міцкевічу мы кахаем гэту зямлю.

***— Ніхто не аспрэчвае, што Адам Міцкевіч — вялікі польскі паэт. Аднак жа ка-***

[працяг ☞ 8]

## Наплываў на возера гарэлкі

Слава Калмыкаў перамог сябе, адрадзіўся. Ужо чацвёрты год вядзе цвярозае жыццё, працуе, вучыцца ў лясным тэхнікуме ды намаўляе калег пайсці яго дарогай.

— Алкаголік звычайна не хоча ратунку, — кажа Слава.

[рэпартаж ☞ 3]

## Між Канстанцінопалем і Масквою

У XVII ствгоддзі ў Рэчы Паспалітай засталася толькі адна праваслаўная епархія — Беларуская. Усё астатняе былое праваслаўнае насельніцтва пайшло ў грэка- і рымакаталіцтва. Польшча тады ваявала з Турцыяй, а кароль Ян III Сабескі быў зацікаўлены абмежаваннем сувязей сваіх падданых з Канстанцінопалем. Таму без вялікіх цяжкасцей удалося атрымаць згоду патрыярха канстанцінопальскага на падпарадкаванне Маскве праваслаўя ў Рэчы Паспалітай.

[нарыс ☞ 4]

## Падвойная порцыя мужчынскай літаратуры

Кніга „Demonokameron" інспіраваная гайнаўскімі літаратурнымі семінарамі „Бязмежжа" — выйшла друкам сёлетняй вясною. Плён працы чатырнаццаці перакладчыкаў атрымаўся някепскі. Цікавы пісьменнік, арыгінальны стыль, добрая літаратура, — такі, больш-менш, погляд на Глёбуса і яго творчасць набылі польскія рэцэнзенты прачытаўшы кнігу.

[рэцэнзія ☞ 5]

## Дыскусія пісьменнікаў і выдаўцоў

Сама ідэя польска-беларускіх спатканняў у Гайнаўцы выклікана была незадаволенасцю цяперашнім супрацоўніцтвам і кантактамі паміж нашымі краінамі, — сказаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі. — З болем успрымаем той факт, што наплыў беларускай літаратуры на польскі рынак па сутнасці спынены.

[болей ☞ 8]

## Царква ў Вэрстоку

Метрычныя кнігі 1798-1801 гадоў служаць доказам таму, што ў той час вэрстоцкая царква была ўжо прыходам. У 1869 годзе праводзіўся капітальны рамонт царквы. Ужо ў XX стагоддзі з заходняга боку была дастаўлена званіца.

[гісторыя ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

**Беларусь у вачах масквіча**

## Браты па рублю

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**Адкрыццё**

Перад ад'ездам на бацькоўскую дачу мне прыйшлося памяняць чарговыя 100 долараў і купіць хаця якіх-небудзь прадуктаў. Спытаўшы ў бацькоў, у якім абменным пункце звычайна самы высокі курс, я атрымаў адказ: у тым, што побач з рынкам. Прытым нават не ў самым пункце, а ў пастаянна курсіруючага каля яго ўкормленага мужыка ў карычневай скуранай куртцы. Ён скупляе долары на 8-10 тысяч беларускіх рублёў даражэй, чым абменны курс, і на 0,5-1,5 тысяч, чым іншыя валютчыкі. Інакш кажучы, бацькі прапанавалі мне парушыць закон.

У Расіі я ўжо шэсць гадоў мяняю долары толькі ў абменным пункце. У Беларусі мне прыйшлося зрабіць злачынства, тым больш пасля таго, як жонка з калькулятарам у руцэ даказала, што абмен 100 долараў па курсу на 10 тысяч вышэй, чым у абменным пункце, — гэта яшчэ адны чаравікі і амаль цэлы камбінезон.

Каля пункта абмену сапраўды курсіраваў тоўсты мужчына ў карычневай куртцы, але ад ягоных паслуг я адразу адказаўся. Таму што заўважыў непадалёку свайго старога футбольнага трэнера. Таксама ў карычневай куртцы. Сумненняў не было — ён таксама сістэматычна парушае закон і, мабыць, не ашукае свайго былога вучня, хаця і купіць долары трошкі танней. Адказ на першае пытанне па справе, зададзенае яму пасля роспытаў пра лёсы членаў былой каманды (нехта іграе ў мінскім „Дынама", хтосьці сядзіць у турме за валютныя спекуляцыі) упэўніў мяне ў тым, што я звярнуўся на добры адрас.

— Вы не баіцеся?

— Я працую акуратна.

— Па якім курсе?

— На скупку — 77, на продаж...

— Мне на скупку.

Неўзабаве незаўважальным для навакольнага свету спосабам у маёй кішэні аказалася пачка беларускіх рублёў, а ў кішэні майго былога трэнера — стадоларавая купюра. Значыць, думаў я, накіроўваючыся ў напрамку магазіна, на беларускім валютным рынку ў параўнанні з канцом 1991 года нічагуткі не змянілася.

— Добры дзень, — звярнуўся я да прадаўшчыцы.

— Чаво?

— Два з паловай кілаграма расійскага сыру.

— Мы больш 400 грамаў у рукі не даём.

— ???

— Чаго ўтаропіўся? Сказана — не даём...

Давялося было мне вярнуцца ў машыну, каб захапіць з сабою ўсё сваё сямейства з чатырох (уключна са мною) чалавек, прад'явіць яго ветліваму работніку беларускага гандлю і набыць хаця б паўтара кілаграма сыру. Пасля гэтай аперацыі я зразумеў, што за сем гадоў нічога не змянілася і ў беларускім гандлі. Засталося мне сфармуляваць агульны вывад: з канца 1991 года ў Беларусі наогул нічога не змянілася.

Цэны і курс долара ніколі не спыняліся. Ранейшай засталася таксама эканамічная палітыка ўрада, які адной рукой закрывае на гэты рост вочы, а другой тузае за лейцы, каб яго затрымаць. Як, напрыклад, у сакавіку гэтага года, калі за два тыдні курс беларускага рубля да долара ўпаў, а цэны выраслі прыкладна на 30%. Тады Аляксандр Лукашэнка прыказаў (менавіта прыказаў) дзяржаўным і нават прыватным прадпрыемствам „вярнуць курс рубля і цэны на ўзровень пачатку сакавіка". Не паслухацца ніхто не пасмеў, але ўсе зараз пачалі зноў павышаць цэны, толькі павольна. Горш было з курсам долара: банкі абавязаны ўстанаўліваць свае каціроўкі на ўзроўні афіцыйных. А з фіксацыяй астатніх дзяржаўны банк на дзяржаўнай жа біржы ніколі не меў праблем.

Нават людзі не змяніліся. Яны толькі прыстасобіліся да ўсіх гэтых з'яў, якія ім здаюцца заканамернымі. Возьмем, напрыклад, работнікаў беларускага гандлю. Пазбавіць іх савецкай прывычкі глядзець на пакупніка зверху ўніз не ўдалося нават „Мак-Доналдсу", які без клопатаў спраўляецца з гэтай праблемай у 110 краінах свету, дзе адкрыты яго рэстараны. Зноў прывыкаць да ўсяго гэтага я адмовіўся. Аднак, дарэмна.

**Вяртанне**

Па дарозе ў Маскву, у раёне той жа самай бензазапраўкі, дзе я першы раз памяняў долары, мяне за перавышэнне хуткасці зноў затрымалі беларускія даішнікі. Штраф аказаўся крыху ніжэйшым — дзве мінімальныя зарплаты, або 500 тысяч беларускіх рублёў. 250 тысяч, загадзя падрыхтаваных на такі выпадак (зыходзячы з вопыту зносін з мінскай ДАІ, я зрабіў вывад, што гэта стандартныя адступныя), не прыцягнулі ахоўнікаў парадку. Нядоўга параіўшыся, яны адмовіліся нават і ад 50 расійскіх рублёў (гэта якраз прыкладна 500 тысяч беларускіх) і заставілі мяне вярнуцца на 5 км назад — да той самай бензакалонкі. Пашукаўшы зрокам людзей у карычневых куртках, якім я раніцай прадаць не 50 рублёў, а — з запасам — 10 долараў, я знайшоў толькі маладую пару ў чорных. Але яны, аказалася, не хочуць купляць валюту з рук, лічачы за лепшае зрабіць гэта цераз абменны пункт.

Фокус заключаецца ў тым, што работнікі абменных пунктаў на пытанне, ці можна купіць валюту, нязменна адказваюць, што няма яе ў касе. Тую, якую прадаюць ім такія ідыёты, як я, яны зараз жа афармляюць на сваіх знаёмых. Вядома! Курс продажу ў абменным пункце прывязаны да афіцыяльных каціровак Нацыянальнага банка Беларусі і намнога ён ніжэйшы таго, які на чорным рынку. Таму, здаецца, ці не адзіным спосабам афіцыйна купіць валюту ў Беларусі — схапіць касіра за руку, калі ён аформіў яе пакупку ў ідыётаў, але не паспеў аформіць яе продажу знаёмым.

Але не гэта самае цікавае, Я, так і не прывыклы да беларускіх парадкаў і амаль увесь свой водпуск пражыўшы ў лесе, гатовы быў аддаць 10 долараў па 70, максімум па 72 тысячы беларускіх рублёў. Але на акенцы абменнага пункта, на тым жа месцы, дзе дзесяць дзён раней было напісана: „Долар: скупка — 68 000 б. р.; продаж — 72 000 б. р.", цяпер значылася адпаведна 80 і 84 тысяч. Значыць, на чорным рынку курс яшчэ вышэйшы! Зрэшты, мне было ўсё роўна — толькі як найхутчэй перасячы граніцу, да якой заставалася нейкіх 70 км. Апошнім маім пачуццем перад яе перасячэннем было шкадаванне, што я ўсё-такі не прадаў 10 долараў дзяўчыне ў чорным, якая пасля майго адыходу ад акенца проста-такі ляга грудзю на амбразуру, патрабуючы прадаць ёй гэтыя няшчасныя крошкі.

...У Маскву я ўязджаў ноччу з 20 на 21 жніўня — горды за Расію і свой маласільны, загружаны пад завязку „Фіат-Уно", які, тым не менш, лёгка абганяў гэтыя дваццаці- і трыццацігадовыя „Аўдзі" і „Фольксвагены" з белай авальнай наклейкай BY. Нават тут, на пад'ездзе ў Маскву, яны састаўлялі тры чвэрці легкавых транспартных сродкаў. І таксама, як мой „Фіат", былі запоўнены пад завязку.

Дома ўпершыню за дзесяць дзён я ўключыў тэлевізар. А за некалькі мінут ужо я папракаў сябе за продаж менавіта 10 долараў, а не 50 рублёў, за тое, што накрычаў на жонку, калі яна прапанавала закупіць танных беларускіх прадуктаў на месяц уперад, за тое, урэшце, што не стаў прывыкаць да ўсяго гэтага ў Беларусі. І яшчэ званіў. Званіў цесцю, каб пазычыць у яго на некакрэслены час такую ж чорную скураную куртку, як у гэтай дзяўчыны з беларускай бензакалонкі.

**Юрый Калашноў**

*„Коммерсантъ-Деньги", № 33, 12 верасня 1998 г.*

## Акцыя ў падтрымку Музея

**Выдавец і рэдактар „Беларускага Дайджэсту" Мікола Прускі заініцыяваў акцыю збору аднаразовых ахвяраванняў сярод беларусаў ва ўсіх краінах свету на завяршэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Ніжэй друкуем зварот, які быў апублікаваны ў кастрычніцкім нумары „Беларускага Дайджэсту" — газеты беларускага замежжа ў Амерыцы, з надзеяй на станоўчы водгук нашых чытачоў.**

**Адозва- Просьба...**

Дарагія суродзічы,
людзі добрае волі!

Беларускі музей у Гайнаўцы, будаўніцтва якога трывае ўжо каля 12 гадоў, патрабуе грашовае дапамогі на заканчэнне яго. Ужо шмат зроблена: стаіць вялікі, хоць яшчэ і ня поўнасьцю выканчаны, будынак; сабрана вялізарная колькасьць цікавых экспанатаў, якія выдатна прадстаўляюць беларускую культуру Беласточчыны. Але каб усё давесьці да канчальнага ладу, патрэбны дадатковыя сродкі.

Разумеючы патрэбу такое дапамогі на завяршальным этапе будаўніцтва, гатовасьць правесьці акцыю збору аднаразовых ахвяраваньняў выказала група самаахвярных суродзічаў. Да іх належаць спсп. Натальля і Антон Лук'янчукі, Тацьцяна Кананчук, Оля Дубаневіч, Надзя і Янка Запруднікі, Вера і Праньцісь Бартулі, Ірэна Калядa-Сьмірнова, Аляксандар Сільвановіч, Нікадэм Жызьнеўскі, Міхась Каленік, Лёля Міхалюк і іншыя.

Акцыя збору праводзіцца па ўсіх краінах сьвету, у тым ліку ў Польшчы, Прыбалтыцы, Расеі, Украіне, а таксама ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Бельгіі ды ўсюды, дзе жывуць беларусы і іхныя прыхільнікі.

Найменшая ахвяра будзе прыймацца з вялікаю ўдзячнасьцю. Беларускі музэй у Гайнаўцы мусіць стаць агульнай справаю беларусаў усяго сьвету. Музэй гэты, калі ён адчыніць шырока свае дзьверы для наведнікаў, будзе трывалым паказам багатай гістарычна-культурнай спадчыны беларусаў Беласточчыны ды выдатным сьведчаньнем нашай вернасьці сваім традыцыям.

Усіх нас чакае цяжкая і няўдзячная праца, але яе трэба выканаць, правесьці ўдала і самаахвярна. У зборы ахвяраў трэба зварочвацца да людзей ува ўсіх краінах сьвету, і ня толькі беларусаў, але і іх прыяцеляў, суседзяў, знаёмых, дзяцей і ўнукаў. У гэтую акцыю трэба ўлучыць людзей розных нацыянальнасьцяў, перакананьняў і наагул усіх добразычлівых.

Дык-жа паспрыяем заканчэньню Беларускага музэю ў Гайнаўцы сваімі пасільнымі ахвяраваньнямі, сваім укладам у справу, каб жыла Беларусь.

Падпісаныя лісты з ахвярамі просім перасылаць на адрас „Беларускага Дайджэсту". Прозьвішчы ахвярадаўцаў будуць апублікаваныя ў нашай газэце.

Дык у добры час, з Божай дапамогай, да працы!

Дзякуем за супрацоўніцтва!

**„Belarusian Digest"**
**c/o N. Prusky,**
**1086 Forest Hill,**
**SE. Grand Rapids, MI 49546, USA**

## Рэферэндум па даверы непатрэбнае

Анатоль Малафееў — спікер беларускай палаты прадстаўнікоў, сказаў, што ён не бачыць патрэбы рэферэндуму па даверы прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Рэферэндум такі запрапанаваў Беларускі патрыятычны саюз на сваім устаноўчым кангрэсе ў мінулым месяцы. Свае адносіны да прэзідэнта і яго палітычнага курсу беларусы выказалі ў рэферэндуме, які быў праведзены ў лістападзе 1996 г. — сказаў А. Малафееў. Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына 1 кастрычніка г.г. сказала газеце „Савецкая Беларусь", што прапанова рэферэндуму — гэта „юрыдычны нонсенс", паколькі беларуская канстытуцыя не прадугледжвае плебісцытаў па такіх пытаннях як давер палітыкам.

*RFE/RL Newsline, 5.10.1998*

## Поўнае зразуменне ў справе даўгоў

Васіль Далгалёў — намеснік прэм'ер-міністра Беларусі, сказаў 5 кастрычніка г.г., што Беларусь і Расія дасягнулі „поўнае зразуменне" ў справе ўзаемнай задоўжанасці. 220 млн. дол. ЗША даўгу за расійскі газ будуць выплачвацца таварамі і паслугамі. Дзень раней намеснік прэм'ера Валерый Кокараў сказаў па тэлебачанні, што „для бартэрных разлікаў у саюзе Беларусі з Расіяй няма ніякай альтэрнатывы". В. Далгалёў прызнаў таксама, што расійскі фінансавы крызіс нанёс „балючы ўдар" Беларусі. Да крызісу беларускі актыў у расійскіх банках дасягаў 220 млн. рублёў (14 млн. дол. ЗША) і 50 млн. дол. ЗША.

*RFE/RL Newsline, 6.10.1998*

# Наплываў на возера гарэлкі

Гаварылі пра яго ў Белавежы як пра памерлага.

— Ага, быў, быў, такі адзін, — Ківалі літасціва галовамі. Так жа сказалі б і пра апошніх, распітых насмерць аднавяскоўцаў, якіх у Белавежы хоць ты адбаўляй.

Слава Калмыкаў перамог сябе, адрадзіўся. Ужо чацвёрты год вядзе цвярозае жыццё, працуе ды намаўляе калег пайсці яго дарогай.

— Алкаголік звычайна не хоча ратунку, — кажа Слава.

**Не разумеў слова „кацап"**

За шклянкай зялёнай гарбаты Слава апавядае сваю гісторыю. За акном шпарыць дождж.

— Дзед мой *балахоўцам* быў. Адтуль нетыповае для Белавежы прозвішча. З-над Дону паходзіў. Але ў сям'і маўчалі пра гэта. Калі я пачынаў распытваць пра дзедку, зразу мянялі тэму.

— *Ten temat jest zamknięty dla naszej rodziny*, — гаварылі бацькі, якія паміж сабой размаўлялі *па-свойму*, а са Славам — па-польску. Дагэтуль не ўмее ён гаварыць па-беларуску з аднагодкамі і моладдзю. А са старэйшымі людзьмі, калі ласка, як *стары па-свойму* рэжа. І кніжкі на царкоўнаславянскай мове чытае, разумее.

— За што ты сядзеў у турме?

— Было ваеннае становішча. Разам з сябрамі выпілі тое-сёе, весяліліся. А тут падыходзяць да нас *клієнты* і абзываюць *кацапамі*. Бо яны са сталіцы, з Варшавы. То мы не стрымалі крыўды і паламалі ім пашчэнкі. За гэта сядзеў. І ведаеш, нават не разумеў значэння слова *кацап*.

**Хацеў плаваць па акіянах**

— Я ніколі не чула, каб ён пагана гаварыў пра сваю маці ці жонку, — кажа знаёмая з Белавежы.

Пасля расказвае, як Слава Калмыкаў ехаў на Грабарку. Раптам з панадворка, невядома калі, пад колы яго матацыкла, падбінулася дзіця на ровары. Дык ён зразумеўшы, што заб'е дзіця, рэзка павярнуў у бок ды ўрэзаўся ў дрэва. У выніку катастрофы паламаў руку. Але не хваляваўся. Найважнейшае, што дзіця не пацярпела.

— Славік ёсць добрым чалавекам, — кажа шэф Славы, Анджэй Кэчынскі з Белавежскага парку. — Працавіты і сумленны. Слава па прафесіі аператар лясных машын, дрывасек, значыць. Але пасля працы вяртаецца да сваіх зацікаўленняў: астраноміі, біялогіі, пошукаў слядоў даўніны, чытання рэлігійнай і навуковай літаратуры.

— У школе найбольш я любіў біялогію і геаграфію. Гадзінамі мог назіраць праз мікраскоп глыбіню рэчаў. Марыў стаць археолагам, — кажа Слава.

Другая страсць майго героя — падарожжы. Марыў, што пойдзе служыць у *марынарку*, каб плаваць па бясконцых акіянах.

— Можа па дзеду, балахоўцу, ува мне такія мары, — задумваецца Слава. — Часам лаўлю, як у маіх мазгах шалясцяць бесканечная прастора стэпу.

**Выпіў возера гарэлкі**

— Уяві сабе, што топішся ў багне. Твань уцягвае, засмоктвае цябе ў бяздонную пастку, — расказвае пра гады алкагалізму Слава. Крытычна ацэньвае гады прапітай маладосці. — Топішся, бо табе нішто не цікава з-за выпіўкі. Абы толькі не дапусціць да пахмелля! Праз гарэлку пакінуў ліцэй і пачаў вучыцца ў прафесійнай школе, якую закончыў, хаця выпіў у той час возера гарэлкі. Былі гэта гады пастаянных бібак, вяселляў, дансінгаў, дыскатэк. Раніцай, каб дайсці да сябе, выпіваў паўбутэлькі „чарніла". Пасля заканчэння школы пайшоў працаваць дрывасекам у пушчу. А вядома, што гэтай прафесіі спадарожнічае пастаянная выпіўка. — Калі мы зрабілі сваю працу, звычайна беглі па гарэлку. Такая была традыцыя. Добра было тады, весела, беспраблемна. Толькі раніцы трывожылі пахмеллем. Бацька хацеў прывучыць мяне рэзбіць зуброў, — успамінае Слава. — Але я не хацеў яго слухаць. Бо як гэта так? Я, вольны чалавек, буду сядзець з бацькамі і калупаць зубрыкаў!

**Кашмарррррр!**

Пахмелле і праца ў Славы пачалі не сумяшчацца, змагацца за першынство. Д'ябальскі млын алкагалізму набіраў маху.

— У алкаголіка існуе толькі адна святасць — бутэлька, — кажа Слава. — І не веру, што вялікае каханне адвядзе нас ад алкагалізму.

Слава ажаніўся з вялікага кахання. Але піцце адцягала ў свой бок яго пачуцці для сям'і, родных.

— Робішся самалюбным скурвысынам і эгаістам! — лаялі тады мяне бацькі і жонка. — А я ўсе іх увагі ўспрымаў як зло ў маім кірунку. Чаму так? Бо маё другое „я" алкаголіка шаптала: *Слава, не будзь дурнем, калі іх паслухаеш, не будзе табе сёння выпіўкі.*

— Цяпер бачу, — Слава зацягваецца папяросай маркі „Норд", — што ўсе сваркі я сам правакаваў. Пачынаў сварку, скандаліў, каб кінулі мне ў зубы нейкія грошы і каб я хутчэй мог пабегчы і напіцца. А як дамогся свайго і *пайшоў у танга*, маё другое „я" гаварыла: *Ты добра зрабіў, твая праўда. Цябе ж у той хаце ніхто не кахае, ніхто не шануе*. Найгоршыя былі бяссонныя ночы, калі ў сэрцы ўспыхаў невыносны пераляк, палохалі мроі і прывіды. Аднойчы, напрыклад, бачыў як сцены пачалі звужацца, каб спляшчыць, як авадня якога. Прывід проста з пекла родам, кашмарррррр.

**Касмічныя прывіды**

Мроі здараліся розныя. Слава з усмешкай успамінае прывід касмічнага характару.

— Здаецца, — расказвае, — ляжу ў сваім ложку і назіраю планеты: Марс, Юпітэр, Сатурн. І бачу сябе на Месяцы-рагаліку — ляжу там і гушкаюся ды нават адчуваю прыемнасць. Або так: пасля пяці дзён вострага піцця ўрываюся ў свой дом з гранатай (у сапраўднасці з замком) і кажу бацьку, што я з Космасу, што з'явіўся на Зямлю наводзіць парадкі. Раней некалькі разоў глядзеў фільм „Рэмбо". Замком-гранатай хацеў разарваць роднае гнязло, сям'ю.

— Кожны мае прывіды, на якія заслугоўвае — жартуем, пералічваючы многія праявы белай гарачкі — delirium.

**Сам хацеў вырвацца з багны**

Набліжалася поўнач. За акном жахалі маланкі.

— Ці размаўляў ты з чортам? — пытаю свайго героя.

Слава не любіць такіх пытанняў.

— Ведаеш, — кажа, — кожны з нас размаўляе са сваім чортам. Яго толькі па-рознаму называюць. На тэрапеўтычных занятках для алкаголікаў гавораць пра яго як пра другое „я". У сутнасці гэта наша пагарда для нармальнасці і дабрыні.

Слава не скрывае, што глыбока верыць у Бога.

— Думаю, што малітвы родных дапамаглі мне вырвацца з гэтай пякельнай багны. Ну, але і сам хацеў адрадзіцца. Верыў і адчуваў, што ўдасца.

**У Белавежы атрутнае паветра**

Калі пытаю ў Белавежы пра дапамогу для алкаголікаў, людзі махаюць рукамі.

— Адна магіла іх вылечыць, — кажуць у адчаі.

Пошасць алкагалізму заваявала не толькі пакаленне сённяшніх трыццаці- і саракагодкаў. П'юць тут нярэдка цэлыя сем'і, не выключаючы дзяцей.

— Аўтахтонаў прыбівае маразм, недахоп месцаў працы і годнага заробку. Калі амбітны чалавек бачыць табуны радасных, багатых турыстаў і параўноўвае сваё становішча, звычайна пагружаецца ў чорную дэпрэсію, — тлумачаць знаёмыя з Белавежы. — Бо з той турыстыкі, — дадаюць, — мясцовыя людзі нічога не маюць. Сёння не аплачваецца нават рэзбіць зуброў, якія калісьці падмацоўвалі мясціну.

І калі пашанцуе некаму стаць фурманом і вазіць чужаземцаў, радасць шчаслівуца хутка мінае. Бо чорная зайздрасць бяздарных суседзяў атручвае паветра.

Слава Калмыкаў вырваўся з кіпцюроў алкагалізму.

— Аднойчы, у час бяссонніцы, я пачуў, як плача мая душа. І зразумеў, што страчу ўсё: дом, жонку, дзіця. Паехаў лячыцца, вярнуўся да рэлігіі. У час тае начы я зразумеў, што жыццё на ўсім свеце — банальнае. Але няма за яго нічога цікавейшага.

**Ганна Кандрацюк**

# Кляшчэлеўскае гняздо

**У мінулым годзе ў Кляшчэлях заснавалася Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі. Аб ідэі ўзнікнення Таварыста і яго планах з працаўніком мясцовага асяродка культуры Яўгеніяй КАЗІМЕРУК размаўляе Міхал Мінцэвіч.**

***— На тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны гэта другая (пасля Белавежы) такога роду арганізацыя. Якая была гісторыя ўзнікнення Таварыста прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі?***

— ТПКЗ прыдумалі мы рыхтуючы мінулагодняе мерапрыемства, прымеркаванае да святкаванняў Дзён Кляшчэль. Назвалі мы яго „Гняздо" і запрасілі да ўдзелу выхадцаў з нашага мястэчка і наваколля, якія жывуць у розных гарадах краіны і ў замежжы. Запрапанавалі мы ім стаць заснавальнікамі Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі і на наш заклік станоўча адгукнулася амаль 50 чалавек. Потым дайшлі астатнія. Распрацавалі мы статут, выбралі ўправу, пачалі рэгістрацыю ў судзе. Існуем ужо год і ў першых месяцах дзейнасці многа часу заняло нам афармленне адміністрацыйных спраў. Цяпер засяроджваемся на мерытарычнай дзейнасці. У ТПКЗ запісаліся людзі, якія даражаць сваёй бацькаўшчынай і якім залежыць, каб на зямлі іхняй маладосці нешта карыснае дзеялася.

***— У чым заключалася ідэя мерапрыемства „Гняздо"?***

— Гэтым найменнем мы назвалі першы дзень святкаванняў у рамках штогадовых Дзён Кляшчэль, паколькі кожны выводзіцца з нейкага гнязда — месца жыхарства сям'і, бацькоўскага дому. Два месяцы раней сталі мы вышукоўваць адрасы нашых землякоў і загадзя высылаць запрашэнні да ўдзелу ў мерапрыемстве, якога ініцыятарам быў наш асяродак культуры. Тэрмін святкаванняў вызначылі мы на летні перыяд, хаця гадавіну прысвяення мястэчку гарадскіх правоў павінны мы адзначаць у кастрычніку. У час канікулаў на радзіму прыязджае найбольш нашых землякоў.

***— Хто вылучаецца ў дзейнасці Таварыства?***

— ТПКЗ узначаліў Васіль Крупіч, ураджэнец Дабрывады, выкладчык беластоцкага Політэхнічнага інстытута. Пры ім згуртавалася яшчэ некалькі актыўных асоб.

***— Якія найбліжэйшыя планы ў Таварыства?***

— У будынку старой школы намерваемся адкрыць музей Кляшчэлеўскай зямлі. Аб'явілі мы зборку экспанатаў, а ўжо сабранае паказвалі на выстаўцы ў доме культуры. Нягледзячы на цесноту (зала і два пакоікі над пажарным дэпо) у нашым доме культуры мае сваю сядзібу ТПКЗ і тут захоўваюцца ўсе экспанаты.

***— Ці дапамагаюць Таварыству ваяводскія і мясцовыя ўлады?***

— У Ваяводскі асяродак анімацыі культуры за дапамогай звяртаемся па меры патрэб. Асноўным партнёрам у нашай мерытарычнай дзейнасці лічым Аб'яднанне таварыстваў культуры. Дырэктар нашага асяродка культуры, а заадно сакратар ТПКЗ, удзельнічае ў з'ездах краёвых таварыстваў культуры і адтуль прывозіць многа прапаноў і патрэбных нам матэрыялаў. Апошні такі з'езд адбыўся ў Радаме ў верасні г.г. А на месцы выдатна нам дапамагае наш бурмістр. Дагэтуль кожная ініцыятыва Таварыства атрымала ягоную падтрымку.

***— Ці да сваёй дзейнасці прыцягваеце моладзь?***

— Праца з моладдзю гэта даволі складаная справа і рэалізуецца яна ў нас перш за ўсё ў спартыўным плане. Падчас штогадовага мерапрыемства Дні Кляшчэль адзін дзень адводзім спартыўным гульням. Нядаўна ўзнавіў дзейнасць народны спартыўны клуб „Арол", здадзена была ў карыстанне новая спартыўная зала, арганізуюцца баскетбольная і валейбольная каманды. Дзяўчаты могуць займацца аэробікам, а юнакі — каратэ. Адным словам, клапоцімся, каб маладым людзям забяспечыць адпаведныя ўмовы для карыснага адпачынку.

***— Калісьці Кляшчэлі славіліся ганчарствам. Што засталося ад гэтай традыцыі?***

— Не засталося амаль нічога, толькі адны ўспаміны, пару гаршкоў і фатаграфіі. Калі б былі ахвотныя, можна было б гэтую традыцыю аднавіць.

***— Дзякую за размову.***

# Сярод белых эстонскіх начэй

*Беларусь, ты далёка — далёка...*
*Што ж тут зробіш — такі ўжо мой лёс.*
*Уладзімер* Дзехцярук

**„Часта пытаюць нас: як вам, беларусам, жывецца ў Эстоніі. Адказваем: дзякуй Богу, — кажа Зінаіда Клыга. — Але адчуваецца цяпер непрэстыжнасць быцця беларусам...**



*Зянон Пазьняк і Зінаіда Клыга ў Вільні.* Фота Міры Лукшы

...Справа ў тым, каб пашыраць кола тых, хто не хаваецца за г.зв. агульнарускую культуру і польскае паходжанне".

Зінаіда Клыга жыве ў горадзе Йыхві ў паўночна-заходнім рэгіёне Эстоніі Іда-Вірумаа. Беларусы таго рэгіёна дзейнічаюць у Беларуска-эстонскім згуртаванні (БЭЗ), якому ў будучым годзе споўніцца 10 гадоў. У рэгіёне пражывае каля 7 тысяч этнічных беларусаў. Задачай і мэтай згуртавання — аднаўленне страчаных каранёў, развіццё беларускай культуры, інтэграцыя ў эстонскае грамадства.

— У час, калі Эстонія выйшла са складу СССР і стала незалежнай дзяржавай, на фоне барацьбы эстонцаў за сваю нацыянальную самабытнасць і ў нас, беларусаў, узнікла жаданне „людзьмі звацца", вылучыцца з шэрагу натоўпу так званых „русскоязычных", на грунце беларускай культуры аднавіць амаль што страчаныя нацыянальныя карані, — гэта словы старшыні БЭЗ, дырэктаркі мастацкай школы ў Йыхві спадарыні Маргарыты Астраумавай. — У сакавіку 1989 г. на чарговай гадавіне ўтварэння БНР утварылася было Кохтла-Ярвескае згуртаванне беларускай культуры, якое з цягам часу перарасло ў аб'яднанне беларусаў Іда-Вірумаа і назвалася БЭЗам.

Ёсць беларускія суполкі-„гронкі" БЭЗа ў Кохтла-Ярве, Йыхві, Сомпа,Ківіылі, Ору, Сіламяэ. У Эстоніі стварыўся цэлы шэраг іншых беларускіх суполак, у адным Таліне іх аж пяць. На тэрыторыі паўночна-ўсходняй Эстоніі беларусы дзейнічаюць найбольш энергічна. На канцэртах бывае шмат прадстаўнікоў іншых народаў — эстонцаў, фінаў, палякаў, украінцаў, татараў. Наладзілі таксама сяброўскія адносіны з беларускімі суполкамі іншых краін Балтыі і Польшчы, бяруць удзел у імпрэзах ладжаных імі. Напрыклад, на свяце беларускай песні ў літоўскім горадзе Вісагінасе паспяхова выступіў іхні ансамбль. У сядзібе БЭЗа, у памяшканні мастацкай школы ў Йыхві наладжваюць мастацкія выстаўкі беларускіх мастакоў. Запрашаюць да сябе беларускія творчыя калектывы, у Беларусі стараюцца прапагандаваць эстонскую культуру. Мясцовая прэса шырока інфармуе пра дзейнасць згуртавання. Імкнецца яно пастаянна ўплываць на адраджэнне нацыянальнай свядомасці, перш за ўсё — гістарычнае памяці беларусаў, якіх лёс закінуў у свет. Імпрэзы ладзяцца паўсюль, дзе кампактна пражываюць беларусы.

Ядром актывістаў ёсць Зінаіда Клыга, Тамара Пашкоўская, Тамара, Мікола, Святлана і Ларыса Галкоўскія, Надзея Гаўрылава, Ганна Корка, Ліда Глімакова, Янка Дрозд... У спісах дзеячаў больш за сто асоб, а на імпрэзы збіраецца больш за 200. Адным з больш цікавых сяброў суполкі з'яўляецца Уладзімір Дзехцярук, адзін з заснавальнікаў БЭЗа, інжынер-чыгунчанік, паэт, аматар роварных вандровак па Эстоніі, Балтыі і Беларусі, гістарычны і літаратурны даследчык, словам, майстар на ўсе рукі. І вершы...

— Яны складаюцца ў час шматлікіх вандровак, у якіх мастакоўскае вока жывыя ўражанні простага і звычайнага перакладае на паперу ярка і вобразна; і ў поўнач, калі смутак, а падчас і адчай аб здрадзе, страчаным каханні вярэдзіць сэрца, шукаюць выхад і... знаходзяць яго ў вершах. Праз усю лірыку У. Дзехцярука праходзяць вобразы роднай, цяпер далёкай Беларусі. Шчырая любоў да Бацькаўшчыны, боль за яе сучаснасць і будучыню, за пакутлівы лёс роднай мовы, няўтульнасць свайго адарванага ад Радзімы жыцця, заклік да беларусаў адрадзіць пачуццё свае нацыянальнай годнасці — усё гэта ў шматлікіх вершах і апавяданнях аўтара. А яшчэ пільныя назіранні чалавечых характараў, тонкі гумар і глыбокі роздум аб агульначалавечых праблемах і каштоўнасцях, — так М. Астраумава захваляе кнігу У. Дзехцярука *Сярод белых эстонскіх начэй* (набыць яе можна ў Варшаве ў кнігарні Яна Заброцкага).

У наступным годзе — дзесяцігоддзе БЭЗа. Уладзімер Дзехцярук хоча з гэтай нагоды сарганізаваць роварны рэйд па Балтыі, які закончыцца ў Беларусі. Запрашае ўсіх ахвотных.

— Кожны год вецер вандраванняў кліча мяне ў новыя мясціны. Кожны год з нецярпеннем чакаю надыходу лета. Кожны год збіраю сваіх аднадумцаў, гуртую іх вакол сябе і некуды з імі імчуся. Часцей за ўсё адбываецца гэта пад бел-чырвона-белым сцягам і ў нацыянальным беларускім адзенні, — кажа Уладзімер. Каб скантактавацца з ім, напішыце ў „Ніву".

**Міра Лукша**

# Між Канстанцінопалем і Масквою

**У Польшчы па запрашэнні мітрапаліта Савы і Сабора епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы прабывае патрыярх Канстанцінопаля Варфаламей І. Раней Сабор епіскапаў у лісце да вернікаў прадставіў гісторыю адносін паміж праваслаўем у Польшчы і Канстанцінопальскім патрыярхатам і заклікаў іх да супольных з дастойным госцем малітваў.**

Хрысціянства ўсходняга абраду на зямлю рускую прыйшло з Канстанцінопаля і доўгімі стагоддзямі заставалася ў юрыдычнай залежнасці ад тамашніх патрыярхаў. Цэнтр рэлігійнага жыцця і сталіца мітраполіі знаходзілася ў Кіеве. У XIII стагоддзі ў выніку мангольскіх нашэсцяў горад гэты, некалькі разоў спалены, патраціў палітычнае значэнне. Мітрапаліты рускія, хаця захоўвалі званне кіеўскіх, перанеслі свае рэзідэнцыі ва Уладзімір над Клязьмай, а пасля ў Маскву.

У першай палове XIV стагоддзя Галіцкая Русь апынулася пад уладай польскага караля Казіміра. У выніку яго намаганняў канстанцінопальскі патрыярх благаславіў утварэнне Галіцкай мітраполіі. Яшчэ раней, бо на пачатку таго ж стагоддзя ўзнікла Літоўская мітраполія, якая ахоплівала ўсе беларускія землі. Гэтая апошняя была створана ў выніку намаганняў вялікіх князёў літоўскіх, перш за ўсё Гедыміна і Альгерда.

У тым часе кіеўскія мітрапаліты, якія знаходзіліся ў Маскве і мелі званне „мітрапалітаў усяе Русі" не прызнавалі самастойнасці Літоўскай і Галіцкай мітраполіяў. Так пачалося доўгае змаганне паміж Канстанцінопалем і Масквой за кіраванне Царквой на тэрыторыі Беларусі і Украіны. У 1453 г. Канстанцінопаль быў заняты мусульманскімі туркамі. Патрыяршая ўлада апынулася ў складанай сітуацыі. Адначасова падзенне Візантыі, званай Другім Рымам, адкрыла Маскве дарогу ў пераймальніцтва ўсяе ідэйнай спадчыны Канстанцінопаля. Маскоўскія князі скінулі мангольскае ярмо, пашырылі тэрыторыю свае дзяржавы, падпарадкоўваючы суседнія рускія княствы. Сталі таксама называць Маскву Трэцім Рымам, а Іван Грозны нават прыняў званне імператара (цара). У выніку намаганняў царскай улады ў 1586 г. маскоўскія мітрапаліты атрымалі званне патрыярхаў. Усё сталася легітымным са згоды канстанцінопальскага патрыярха Іераміі.

У тым часе заходнерускае праваслаўе было ў межах Рэчы Паспалітай і фармальна заставалася ў юрыдычнай залежнасці ад канстанцінопальскіх патрыярхаў. Каталіцкае дзяржаўнае кіраўніцтва пры выдатнай падтрымцы касцельных фактараў вырашыла ў 1596 г. ліквідаваць праваслаўе ў гэтай краіне. Гэта, між іншым, выклікала шматгадовую ўнутраную вайну на Украіне, якая вялася паралельна з канфліктам з расейскай дзяржавай. Маскоўскія патрыярхі захоўвалі беспарапынна званне „ўсяе Русі", хаця існавала Кіеўская мітраполія, якая па традыцыі мела права на такое вызначэнне свайго характару. У 1686 г. аднак Смаленская, Чарнігаўская і Кіеўская землі перайшлі ва ўладанне Расіі. Такім чынам Кіеўская мітраполія апынулася ў юрыдычнай залежнасці ад Маскоўскага патрыярхату.

У Рэчы Паспалітай тым часам праіснавала толькі адна праваслаўная епархія — Беларуская. Усё астатняе былое праваслаўнае насельніцтва пайшло ў грэка- і рымакаталіцтва. Польшча вяла тады доўгую вайну з Турцыяй, а кароль Ян III Сабескі быў зацікаўлены абмежаваннем сувязі сваіх падданых з Канстанцінопалем. Таму без вялікіх цяжкасцей пасланцу маскоўскага патрыярха Мікіту Аляксеевічу ўдалося атрымаць згоду патрыярха канстанцінопальскага на падпарадкаванне Маскве праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Сталася гэта ў 1686 г.

Польскія гісторыкі пішуць, што адкрыла гэта дарогу да ўмешвання Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай і падзелу гэтай краіны ў другой палове XVIII стагоддзя. Фактам ёсць, што ў XIX стагоддзі, пры адпаведным заахвочванні расейскіх улад, вялікая частка грэкакатолікаў вярнулася ў праваслаўе. У 1918 г. адрадзілася польская дзяржаўнасць, у межах якой пасля 1921 г. было звыш 6 мільёнаў праваслаўных грамадзян. Царкоўная арганізацыя была расейская, а адносіны з Масквой былі больш чым варожыя. Улады Польшчы вырашылі тады стварыць незалежную, аўтакефальную польскую Царкву. Арыштавалі і выкінулі за мяжу ўсіх епіскапаў, якія былі супраць такога вырашэння. У траўні 1922 г. Сабор епіскапаў фармальна ўстанавіў аўтакефальны парадак.

Справа аднак не была простая з юрыдычнага пункту гледжання. Аўтакефалію магла даць толькі Царкваматы, што ў выпадку Польшчы абазначала Расійскую царкву. Па зразумелых прычынах ні царкоўныя, ні дзяржаўныя бальшавіцкія ўлады не былі зацікаўлены стварэннем аўтакефаліі ў Польшчы. Супраць выступала таксама большасць святароў у Польшчы. Таму ўлады вырашылі звярнуцца з прашэннем благаслаўлення аўтакефаліі да канстанцінопальскага патрыярха Мялецця IV. Пераконванне патрыярхаў польскімі дыпламатамі цягнулася два гады і каштавала 12 тысяч тагачасных фунтаў. У лістападзе 1924 г. Патрыяршы сінод, але без удзелу патрыярхы Грыгорыя VII, благаславіў аўтакефалію Польскай праваслаўнай царквы.

Па прычыне парушэння царкоўных законаў ні руская, ні маскоўская, ні эміграцыйная Цэрквы не прызнавалі самастойнасці польскага праваслаўя. У 1944 г., калі Польшча нанава апынулася пад кантролем Расіі, справа аўтакефаліі вярнулася ў палітычнае жыццё. У новай сітуацыі ніхто не бараніў легітымнасці даваеннай аўтакефаліі. У 1948 г. дэлегацыя польскай Царквы адраклася ў Маскве дадзенай Канстанцінопальскім патрыярхатам самастойнасці і прасіла прабачэння ў Царквымаці за непаслухмянасць. Адначасова Сталін не меў нічога супраць, каб у камуністычнай Польшчы Праваслаўная царква стала аўтакефальнай. Польшчай кіравалі даверааныя ім людзі, таму і тут было ўсё пад кантролем. У чэрвені 1948 года патрыярх Аляксей благаславіў самастойнасць Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Прыналежнасць Польшчы да расійскага лагера аж да 1989 г. спрыяла сяброўскім адносінам абедзвюх Цэркваў.

**Яўген Міранові́ч**

Іпаліт Краскоўскі

# Іцка крамар

*(працяг; пачатак ў 41 н-ры)*

III

Іцка быў меншым у вялікай сям'і старога Ізраіля, таксама крамара, і адзіным ягоным сынам. Двух старэйшых братоў і сястра памерлі ад халеры. У сям'і засталіся толькі некалькі дзяўчынак, калі ён нарадзіўся на радасць старому Ізраілю і яго старэнькай жонцы Соры. Ён стаў пестуном сям'і, асабліва і таму, што ён такі маленькі, худзенькі, безабаронны. Але пры ўсёй сваёй фізічнай хіласці, ён выяўляў нязвыклую як на свае гады кемлівасць, і часта трапнай заўвагай або нечаканым пытаннем ставіў у тупік не толькі свайго непісьменнага бацьку, але нават дзядзьку Моўшу, што займаў ганаровую пасаду кантара ў арлянскай сінагозе.

Калі Іцку не было яшчэ і дзевяці гадоў, ён аднойчы здзівіў свайго дзядзьку кантара. Быў вечар свята Іём Кіпур, Суднага дня, у якое яўрэі шчыра посцяць, каюцца і смуткуюць аб сваіх грахах. Сінагога была яскрава асвечана мноствам васковых свечак. Толькі ў гэтае адзінае свята такія свечкі прыносяць у сінагогу кожны яўрэй, устаўляе ў спецыяльныя самаробныя падсвечнікі і запальвае падчас набажэнства.

У агульнай цішыні дзядзька Моўша ў сваім белым талэсе набожна затрымаўся насупраць каўчэга з Пяцікніжжам і заспяваў малітву Коль-Нідрэ. Іцка замер, слухаючы ўрачыстыя і жаласлівыя матывы гэтай малітвы. Кожны гук яе западаў у ягонае дзіцячае сэрца.

У пасляsвяточны дзень дзядзька Моўша запрасіў да сябе свайго брата Ізраіля і ягонага маленькага сына. Іцка ўбіўся ў вугал і ўтаропіўся вачанятамі ў свайго дзядзьку кантара. Той прыкмеціў гэты пільны дзіцячы позірк.

— Што ты гэтак пазіраеш на мяне, хлопча? — пацікавіўся ён, звяртаючыся да Іцкі.

— Ты прыгожа-прыгожа спяваў малітву ў сінагозе! — з запалам прамовіў хлопчык.

Дзядзька Моўша зараз жа ўстаў ад стала, выняў скрыпку і зайграў малітву Коль-Нідрэ.

— Падспеўвай, падспеўвай мне! — запрасіў ён Іцку, адымаючы смык ад скрыпкі і зноў ударяючы ім па струнах. — Спявай так, як скрыпка грае.

Збянтэжаны хлопчык нерашучым голасам пачаў спяваць за скрыпкай. Вочы яго бліснулі, бляды тварык пачырванеў. З кожным імгненнем голас яго мацнеў, і з дзіцячай душы шчырым пачуццём ліліся глыбока праніклыя ў яе матывы малітвы.

Ізраіль з замілаваннем пазіраў на свайго сына; усе ў хаце прыслухоўваліся спевам хлопчыка, ухваляюча ківалі яму ў такт галовамі.

Дзядзька Моўша нечакана спыніў іграннe і паклаў на стол скрыпку; голас хлопчыка яшчэ празвінеў у паветры і таксама змоўк. Хлопчык збянтэжана апусціў галаву і пачаў адкашлівацца. Усе пачалі падхвальваць яго. Ён узняў галаву і азірнуўся навокал вясёлым, радасным позіркам.

— Прыгожа, прыгожа ты спяваў! — сказаў дзядзька Моўша, звяртаючыся да Іцкі, быццам хочучы падзякаваць яму за тую захапляючую пахвалу, якую ён сам пачуў толькі што ад яго.

— Ладны ў цябе сынок, — казаў Моўша, мякка ляпаючы рукою па плячу свайго брата. — Ха-ха, які б з яго кантар стаў, калі б грудзі ў яго былі мацнейшыя... Слабыя грудзі — слабы голас. Але гэта не бяда, не бяда! Ты чуў, з якой чулліваасцю ён спяваў малітву? Трэба яго вучыць, неабходна вучыць... О, з твайго хлапца будзе толк! Хто можа прадбачыць, мо гэты маленькі Іцка з часам стане вялікім вучоным рабінам, светачам нашага горада.

Стары Ізраіль быў моцна задаволены пахваламі і адразу рашыў: што б там не было — зрабіць свайго сыночка „вучоным".

— Хіба ж мая каробка падыходзіць ягоным слабенькім плячам? — разважаў ён потым са сваёй Сорай. — Не, не быць яму крамаром.

Іцку аддалі на навуку меламеду, яўрэйскаму хатняму настаўніку, разам з двума дзесяткамі такіх жа, як і ён „будучых рабінаў", доўгія гадзіны праседжваць над вялізнай кнігай. Уменне хутка далося яму, але ён нямнога разумеў з таго, што было напісана ў гэтай аграмаднай, цяжкай кнізе, якую яму пасля кожнага ўрока даводзілася пераносіць са стала на лаву, заўсёднае кнігасховішча ўсяе школы. Душна Іцку было над гэтай кнігай, асабліва ў спякотны веснавы дзень, калі на двары гэтак яскрава свяціла сонейка, паблiскваючы ў калюжынках, што стаялі пасля шчодрага жыватворнага дождждыка. Іцка патанаў у задуменнасці пра тое, як зараз прыемна на рэчцы, дзе так шпарка расце зялёная траўка, у алешнічку за агародамі, дзе звонка шчабечуць птушкі і ўвесь дзень, весела пераклікаючыся, гуляюць мяшчанскія хрысціянскія дзеці. „Шчаслівыя!" — з захапленнем шаптаў Іцка, але ў той жа момант па яго шчацэ ляснула замызганая ярмолка суровага настаўніка, і бедны маленькі летуценнік зноў утыркнуўся носам у гэтую вялікую кнігу, і над звонкімі галасамі ягоных сяброў грамчэй другіх чуваць было яго срабрысты голас.

На дванаццатым годзе жыцця Іцка авалодаў усёй мудрасцю свайго настаўніка меламеда, і яго, як выявіўшага асаблівыя здольнасці і поспехі, збіраліся перавесці на грамадскае ўтрыманне ў вышэйшую талмудскую школу-бетгамедрыш. Але тут здарылася тое, што змяніла ўсю яго будучыню.

Іцка стаў праводзіць свайго бацьку за мястэчка, калі той, пасля суботняга адпачынку, узваліўшы на плечы сваю каробку, падаваўся ў звычайнае тыднёвае падарожжа па вёсках і фальварках. Часам вярсты дзве, тры праводзіў ён бацьку за местачковыя крыжы. Прыемна было за агародамі ў алешніку, на беразе рэчкі, але яшчэ больш прыемна ў лесе Княжына, па якім часткова вёў шлях яго бацькі. Іцка захапляўся высокімі магутнымі дрэвамі, удыхаў запалымі грудзьмі духмяны струмень ляснога паветра, сачыў за тым, як каршун імкліва падымаўся над лесам і маленечкай крапачкай знікаў у нябесным блакіце. Але ж трэба было развітацца з бацькам і спяшацца назад дахаты, зноў за вялікую кнігу Талмуда. Іцка аднойчы адважыўся ўхапіць у гэтай кнігі некалькі сваіх хвілін і лёг на зялёны мох пад сасной. Адзін-адзінюткі ён у лесе. Боязна яму, але чаго ж палохацца? Мястэчка ж блізка, ваўкі не падыдуць. Хіба што вось гэтай мурашкі пужацца, што так таропка спяшаецца кудысьці з сасны на мох з нейкай смяцінкай у роце, або той залацістай мушкі, якая віецца над ім з аднастайным бзынканнем. „Чаму яна трымціць крыльцамі?" — мільгае ў галаве хлопчыка. Але новае ўражанне ўжо заступіла папярэдняе і ўзбуджае ў ім новае пытанне: „Што гэта там шуміць уверсе?" — пытаецца сябе Іцка і падымае галаву. — „О, як многа там, уверсе, зялёных верхавін, як яны спакваля, ціха хістаюцца і шумяць, цалкам таксама як верацяно ў руках прапрадухі".

І ён пачынае пераймаць гэты шум, сціскаючы зубы і зводзьна прапускаючы праз іх паветра. „Добра было б мець скрыпку, — рашае ён, — такую ж, як у дзядзькі Моўшы. На скрыпцы можна падабраць гэтую песеньку мушкі, што бзынкала нада мною. Эх, каб бацька вывучыў мяне на музыку, а то ў меламеда за гэтай кнігай душна, душна... Бацька ўвесь час на дварэ, як добра яму дыхаць, як прыемна ісці, ісці. Усё новыя мясціны. А мо папрасіць бацьку, каб ён браў мяне з сабой гандляваць! Эх, калі гэта я стану вучоным, а цяпер ужо трэба дапамагаць бацьку: ён жа такі стары... І матуля старая..."

Гэтая думка кудысьці глыбока пранікла ў грудзі Іцкі. Ён крочыў дахаты спакваля і ўсё думаў, думаў.

*(працяг будзе)*

**Пераклад з рускай**
**Міколы Гайдука**

# Падвойная порцыя мужчынскай літаратуры

„Менск, гэта горад, у якім *genius loci* не ўвасобіўся ані ў постаць Галема, ані Вавельскага цмока, а быў паклікані з балот, дрыгвы, азёр, лугоў, рачных завоін, бароў, урочышчаў і гаёў сінявокай Беларусі ў выглядзе натоўпу лесавікоў, палевікоў, хутаў, стрыгаў, русалак і кадукоў. Увесь гэты бэстыярый асеў у метраполіі разам з мужыцкім людам, які ўзяў з сабою свой напаўязычніцкі светагляд з вясковымі чарамі, забабонамі і страхам. (...) Секс для гэтых перасяленцаў быў адной з дэманічных моцаў прыроды, якой трэба было баяцца, а не абагаўляць на алтарах. Д'ябалічная метафара Глёбуса ў адносінах да беларускага эратызму ўласцівая і трапная". Так пісаў у пасляслоўі *Oswajanie demonów* да кнігі Адама Глёбуса *Demonokameron* Ян Максімюк.

Кніга — інспіраваная гайнаўскімі літаратурнымі семінарамі „Бязмежжа" — выйшла друкам вясною гэтага года ў Беластоку. Над перакладамі 66 апавяданняў, героем якіх з'яўляецца гэты фантастычна-сексуальны *дух месца* Менска, папацеў салідны калектыў — чатырнаццаць чалавек. Плён іх працы, калі меркаваць па рэцэнзіях беластоцкіх газет, атрымаўся някепскі. Цікавы пісьменнік, арыгінальны стыль, добрая літаратура, — такі, больш-менш, погляд на Глёбуса і яго творчасць набылі польскія рэцэнзенты прачытаўшы кнігу.

*Demonokameron* складаецца з дзвюх частак: *Demonokameron 1994* і *Nowy Demonokameron. Baśnie*. Першая, гэта апавяданні з выдадзенай у 1994 годзе кнігі *Дамавікамэрон*. Апавяданні для другой часткі перакладаліся з машынапісу. Спачатку выйшлі яны па-польску, а толькі пагода пазней з'явілася кніга *Новы Дамавікамэрон*.

„Ну вось выдаў ты 66 казак *Дамавікамэрона*, ходзіш па горадзе і раздорваеш даволі дарагія асобнікі. — Папракае Збіральніка, за якім і не хаваецца аўтар, таксама лёгка апазнавальны ў рэальным менскім жыцці Тэлевізійнік. — І што маеш у адказ"?

„Адказ просты, я маю магчымасць павялічыць збор казак, паданьняў, мітаў. Кнігі раздаюцца з патаемнай мэтаю: за атрыманы асобнік, хай сабе ў адным выпадку з адзінаццаці, але я пачую працяг сваёй кнігі".

Тое, што Адам Глёбус вызначае сабе месца збіральніка сучаснага гарадскога фальклору, Валянцін Акудовіч у пасляслоўі да *Новага Дамавікамэрону* называе містыфікацыяй: „Некалькі лякальных сюжэтаў і герояў вуснапаэтычнай творчасьці, якія беларуская вёска прыхапіла з сабой, калі пераехала ў горад, Адам Глёбус разгарнуў у шырокую квазіфальклёрную панараму, дзе месьціцца мноства герояў, кожны зь якіх ёсьць альбо чарговым аўтарскім варыянтам традыцыйнага вобразу, альбо ўвогуле „навaтворам".

„Ад традыцыйных легендаў і паданьняў (між іншым у аўтэнтыцы часам таксама дастаткова брутальных) і іх літаратурных вэрсыфікацыяў (кшталту „Шляхціца Завальні") квазіфалькляістыку Адама Глёбуса гранічна адцяняе яе *цялеснасьць*. Традыцыйныя зданi й прывіды былі істотамі пераважна бясплоцевымі й таму ў большай меры тоесьніліся з імпатэнтна-інфэрнальным, а не з сэксуальна-жыцьцядайным сьветам. Ня так у Адама Глёбуса, яго зданi й прывіды — гэта кавалкі магутнай плоці сэксуальнай машыны, якая зьдзяйсьняе сэксуальную волю быцьця зь нейкай нават гіпэртрафаванай прагай..."

„Вызначыўшы ў героі за сутнасьць яго агрэсіўную сэксуальнасьць, Адам Ґлёбус вярнуў у кантэкст беларускай літаратуры *мужчыну* (а можа дакладней было б сказаць, што ён стварыў прэцэдэнт *мужчыны* ў беларускай літаратуры, бо ці быў увогуле ў нашай вечна румзаючай паэзіі й прозе *мужчына*?)", — рытарычна пытаецца Валянцін Акудовіч у бадай першай спробе крытычнага-літаратурнага аналізу Глёбусавых *дамавікоў*.

Чытач на Беласточчыне апынуўся ў надзвычай камфортным становішчы, бо можа пазнаёміцца адразу з двума варыянтамі гэтай *мужчынскай* літаратуры: беларускім і польскім. У абедзвюх кнігах рэкамендую пасляслоўі, прычым, калі Валянцін Акудовіч разглядае *Дамавікамэрон* у святле гісторыі беларускай літаратуры і сусветнай філасофскай думкі, Ян Максімюк засяродзіўся на прэзентацыі самога аўтара і сённяшняй беларускай рэальнасці, у якой узнікаюць гэтыя апавяданні. Абодва выданні маюць тую самую вокладку — непрыстойна вывалены „беларускі язык". *Новы Дамавікамэрон* багацейшы нецнатлівымі рысункамі самога аўтара і эратычнымі здымкамі аўтаравай жонкі — Алены Адамчык.

**Мікола Ваўранюк**

PS. Абедзве кніжкі можна набыць у рэдакцыі „Нівы".

Adam Hlobus, *Demonokameron. Przekład z białoruskiego pod redakcją i posłowiem Jana Maksymiuka*. Białystok 1998.

Адам Глёбус, *Новы Дамавікамэрон. Казкі для дарослых*. Менск, Літаратура, 1998.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Вершы для Натwebsites

Пад такім загалоўкам выйшла новая кніжка Віктара Шведа. Большасць вершаў памешчаных у зборніку вядома пастаянным чытачам „Зоркі". Раней друкаваліся яны на нашых старонках.

„Вершы для Натальні", як падказвае загаловак, прысвечаныя дачушцы паэта, Натальцы. Нягледзячы на гэта, зборнік мае універсальны характар. У вершах сустракаем сцэны са штодзённага жыцця, нашу рэчаіснасць. Кожны з нас памятае перажыванні звязаныя з прадшколлем ці паездкай на канікулы, перажыванні, якія непрыкметна мінаюць з дзіцячымі гадамі. Якраз у кніжцы сустракаем непаўторны клімат размоў дарослых і малых людзей. Кніжка выдадзена на прыстойным тэхнічным узроўні ды ўпрыгожаная каляровымі малюнкамі Тані Місіюк. Можна мець заўвагу да рэдакцыі кніжкі з увагі на схематычнасць разьмяшчэння твораў і недахоп карэктуры. Усё ж горача рэкамендую набыць зборнік. Асабліва заахвочваю бацькоў, бабуляў ды дзядуляў. Сярод радкоў сімпатычнай кніжачкі мы адшукаем самыя ясныя хвіліны мацярынства. Вершы для Натальні хаця каштуюць толькі пяць злотых, каштоўны падарунак Віктара Шведа для паклоннікаў яго творчасці: дзяцей і дарослых.



*Дзеці з ПШ н-р 4 дэкламавалі і спявалі творы В. Шведа. Ля мікрафона першакласніца Аня Яканюк.*
Фота Ганны Кандрацюк

* * *

6 кастрычніка г.г. у Беластоку адбылася прамоцыя кніжкі В. Шведа „Вершы для Натальні". На вечарыну прыйшло многа дзяцей. Мерапрыемства выдатна ўзбагацілі дзеці з ПШ н-р 4 у Беластоку, якія дэкламавалі вершы, памешчаныя ў новым зборніку. Сярод выступаючых была і гераіня вечара — Наталька Швед. Таксама „Зорка" мела гонар уключыцца ў прамоцыю кніжкі. Дзеткі размалявалі кашулькі, на якіх знаходзіліся вершы Віктара Шведа. Адну з іх (з выявай дзяўчынкі) мы падарылі Натальцы Швед. Апошнія кашулькі атрымаюць лаўрэаты пластычнага конкурсу, які наладзіла „Зорка" ў час вечарыны. Самыя цікавыя малюнкі паводле „Вершаў для Натальні" надрукуем у „Зорцы" ды наладзім з іх выстаўку у ПШ н-р 4 у Беластоку.

**Ганна Кандрацюк**

## Вершы Віктара Шведа

### Бацькі ведаюць больш

— Скажы мне, татка, у сакрэце:
Бацькі ведаюць больш чым дзеці?
— Гэта ж вядома, не дуры галавы.
— А хто выдумаў рухавік паравы?

— Паравы рухавік акурат
Вынайшаў Джэймс Уот.
— А чаму ж не яго бацька? —
Зноў пытанне сынка Вацка.

### Хто паходзіць ад малпы

Азваўся да таты Валодзя:
— Настаўнік нам сёння сказаў,
Што людзі ад малпы паходзяць.
Ці, татка, аб гэтым ты знаў?

Татулька пацiснуў плячыма:
— Прашу, не нервуй ты мяне!
Паходзіш ад малпы магчыма,
А я, безумоўна — не!

# Трэці раз паказалі спектакль




*Пастаноўка „Як лютасць дабрынёй стала". Сцэнка „Добрыя людзі".*
Фота Ганны Кандрацюк

Разам з пачаткам навучальнага года, у беларуска-польскім прадшколлі ў Беластоку пачаліся тэатральныя заняткі. 4 кастрычніка г.г., у Ваяводскім доме культуры (у „Сподках") адбылася трэцяя ўжо пастаноўка п'есы „Як лютасць дабрынёй стала". Побач беластоцкіх дашкольнікаў на сцэне выступілі „Лісічкі" з Ласінкі, са сваім мінулагоднім рэпертуарам. Маладых артыстаў вельмі высока ацаніла беластоцкая публіка, а арганізатары зафундавалі ім два кашы цукеркаў. Як і папярэднім разам, мерапрыемства наладзілі бацькі дзетак з беларускага прадшколля.

Да сустрэчы на чарговай беларускай пастаноўцы!

### Слонік

Слонік тупаў па вальеры,
мацаў хобатам — дзе дзверы.
Не схацеў ён жыць на поўдні,
дык не хоча і ў Гародні.
Ані ў Менску,
ані ў Слуцку —
хоць там можна жыць па-людску.
І не хоча ў Белавежы,
хоць і там хапае вожы.
Слонік моўчкі сеў на ўслоне.
Як сказаць без слоўніка:
— Слонік я, хачу я ў Слонім.
Пашкадуйце слоніка!

**Міхась Скобла**

### Загадкі

У верасні толькі да нас завітала,
А лес па-мастацку афарбавала.
Хоць золата ўсюды старанна развесіла,
Ды сумна ў прыродзе,
Маркотна, нявесела;
Неба вунь плача, і птушкі маўчаць,
Вецер штодзённа стаў злы бушаваць...
Дык хто з вас адкажа, хто адгадае,
Што за мастачка ўжо гэта такая?
(Восень)

Ой, як спрытна, нібы мячык,
Скача з елак на дубы.
На сучках к зіме, няйначай,
Сушыць ягады, грыбы.
Спелы ёй арэх трапляе —
У таемны склад схавае.
На зіму каб мець запас,
Дбаць ёй трэба ў летні час.
(Вавёрка)

Без гадзінніка жыве,
а ў пару заўжды ўстае,
галасіста ён спявае —
нас прачнуцца заклікае.
(Певень)

**Нічыпар Парукаў**




*Малюнак Ані Бачынскай*

# Элегантная дзівачка



Жанэта Роля і Ігар Іванюк на Сустрэчах „Зоркі” ў Белавежы. Фота Г. КАНДРАЦЮК

**(фельетон)**

Апошнім часам я глыбока задумоўваюся над славай індывідуальнасцяў і дайшла да вываду, што яны моцна адрозніваюцца ад звычайных людзей, для якіх яны проста дзівакі.

У гэтым выпадку падумаць трэба лагічна: калі кожная індывідуальнасць гэта дзівак, дык кожны дзівак з'яўляецца індывідуальнасцю. Падсумаваўшы сказанае, атрымліваецца выснова: каб стаць індывідуальнасцю, трэба перш стаць дзіваком (падумайце, гэта ж я сама прыдумала!).

Стаць аднак кімсьці такім даволі цяжка, асабліва тады, калі ў намеры перашкаджаюць бацькі. Яны не дазволілі мне: адрэзаць сабе вуха, ды яшчэ ўступіць у школьны самаўрад, каб паліваць „маладых палітыкаў” мінералкай. Шкада! І трэба было прыдумаць штосьці іншае.

Найперш я захацела стаць славутым чалавекам — мастаком. Прыхваціла з хаты нейкае палотнішча і пайшла ў падвал маляваць карціну. На месцы знайшла пэндзлі, раму, фарбы, малаток і цвікі. Збіла раму, выразала кавалак палатна і прымацавала. Далей пачала пісаць „карціну свайго жыцця”. Намачыла ногі ў фарбе і хадзіла па палатне, мяняючы колеры фарбы. Такім спосабам узнік мой індывідуальны мастацкі твор, хаця не скажу, каб ён захапіў мяне. Найгоршае сталася пазней, калі выявілася, што палатно — гэта новы абрус, рама — рэтра-дзверы, а фарбу падрыхтавалі для кагосьці іншага.

Апошняе было шакіруючае: фарбкі, якімі я малявала — не адмываюцца! Я не здавалася. Пачала чысціць ногі, пакуль фарба разам са скурай маіх ступакоў не сышла. Што ж — мастацтва патрабуе ахвяр!

Я ўсё ж не здавалася! Рашыла яшчэ раз (ці не апошні) стаць індывідуальнасцю. Гэтым разам кінулася з галавою ў свет моды. Я стала праектанткай сваёй калекцыі „Жанэль”, а свой дэбют-прэзентацыю вызначыла на 23 жніўня (калі праходзілі Сустрэчы „Зоркі”). З увагі на тое, што яны адбываліся ў Гайнаўцы (горадзе, дзе жыве мая *сімпатыя*) і наваколлі, я апранулася ў адзін з найлепшых маіх касцюмаў: шырокія белыя нагавіцы ды кароценькую сінюю камізэльку. На жаль, мая *сімпатыя* не з'явілася, а я была вымушана ісці ў 20-кіламетровую экскурсію па Белавежскай пушчы (вядома, у маёй апрацы). Аднак было варта! Ніхто з удзельнікаў Сустрэч „Зоркі” не меў джынсаў, якія мянялі колер з белага на зялёна-чорны.

І, здаецца, споўніла я ўсе ўмовы, якія абавязваюць кандыдата ў рады арыгіналаў. Я выдатна адрознівалася ад іншых! З гэтага маем навуку: хочаш быць індывідуальнасцю, ідзі з пупком наверсе, у белых нагавіцах у Белавежскую пушчу.

**Жана Роля**

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Дзяльба

Неяк паны пагрызліся невядома з-за чаго.

— Хто дазволіў пану пляваць у маю попелку?! — халяруе пан Заблоцкі, страшна вырачыўшы вочы.

— Але ж я маўчаў, калі пан Заблоцкі адгрыз палову ад мае цыбуліны? — з пыхаю адказвае пан Кублiцкі.

— Дзяліцца! — Грукае кулаком пан Заблоцкі. — Іначай жыцця не будзе.

Ну а калі дзяліцца, дык па-шляхоцку — напалам клёцку. Раскідваюць хату, развальваюць печ, пералічваюць бёрны, абмацваюць кожную цаглiну — усё напалам. Сякуць стол, лавы. Ледзьве не б'юцца з-за фамільных партрэтаў, нейкага маршалка перарэзваюць ад вуха да вуха. Ад хаты застаецца гладкае, бы ток, месца. Што зробіш? Дзяльба.

Тады бачаць, што падполле не падзеленае. Здавалася б, што ў ім? Мышы і тыя паўцякалі ў вёску шукаць лепшае долі, адно благенькае мышаня засталося. Але і на яго нацэльвае пан Заблоцкі зайздроснае вока.

— Мне тую частку, дзе галава.

Мышаня, паслухаўшы гэтыя словы, спрабуе абразуміць паноў:

— Ці, панове, блёкату аб'еліся? Я ж панам не лава і не печ. Мне ж, можа, таксама жыць хочацца.

Але паны, не даслухаўшы, пачынаюць мацаць вакол сябе — шукаць сякеру. Тады мышаня сігае ў норку, адтуль патаемным калідорам выбіраецца ў заросьлы лебядою гародчык і бяжыць у вёску, дзе ў сялянскіх хатах ужо атабарыліся большыя браты і сёстры.

А паны доўга яшчэ сядзелі карчамі над падполлем — усё не маглі падзяліць мышынае норкі.

**Пятро Васючэнка**



„Лісічкі” з Ласінкі. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Васіль Захарка

Васіль Захарка быў беларускім палітыкам, які вышэй усяго ставіў вернасць ідэі незалежнай Беларусі. У гэтым быў бескампрамісны. Нават калі іншыя беларускія дзеячы, яго сябры, шукалі нейкіх спосабаў нацыянальнага існавання беларусаў ва ўмовах палітычнага парадку Польшчы ці савецкай Беларусі, Захарка легітымнай уладай і дзяржавай лічыў толькі Беларускую Народную Рэспубліку.

Васіль Захарка нарадзіўся 14 сакавіка 1877 года на Гарадзеншчыне. З 1895 г. працаваў настаўнікам у царкоўнай школе. У 1898 г. пачаў вайсковую кар'еру. У царскай арміі служыў да 1917 г. Будучы афіцэрам меў кантакты з дзеячамі Беларускай сацыялістычнай грамады. У кастрычніку 1917 г. арганізаваў З'езд беларускіх вайскоўцаў, а пасля стаў сакратаром Беларускай вайсковай цэнтральнай рады, якая пачала арганізаваць нацыянальнае войска. Захарка ўдзельнічаў у арганізацыі I Усебеларускага з'езду, пасля быў прыхільнікам абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Польска-савецкая вайна і рыжскі пакт спынілі сон беларускай інтэлігенцыі пра свабодную Бацькаўшчыну. Захарка апынуўся на эміграцыі. Быў міністрам фінансаў урада Беларускай Народнай Рэспублікі, які знаходзіўся ў Літве, а пасля ў Чэхаславакіі. У 1925 г. большасць беларускіх эміграцыйных дзеячаў прызнала легітымным урад савецкай Беларусі. Захарка не давяраў бальшавікам і вырашыў ратаваць эміграцыйны ўрад. У 1928 г. стаў прэзідэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Як прадстаўнік незалежнай беларускай думкі пісаў пратэсты ў Лігу нацый супраць здзекаў польскіх улад над беларусамі, якія жылі ў II Рэчы Паспалітай. Заклікаў палітыкаў заходнееўрапейскіх краін да ратавання беларускай інтэлігенцыі, якую саветы масава пасылалі ў канцлагеры пасля 1931 г. Хаця жыў з невялікай пенсіі, якую прызнаў яму чэхаславацкі ўрад, дапамагаў беларусам, якім удалося вырвацца з тэрыторыі паняволенай Бацькаўшчыны. Памёр у Празе ў 1943 г., дзе быў і пахаваны.

# Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 38:** Кут, дым, дрыг, дрыгва, рым, ром, яма. Вядро, Рым, дым, торг, дыван, нара.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Марта Трашчотка**, **Пятрусь Янкоўскі** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Żaba | Pająk / Żyto | ▼ | Katar / Bóg | ▼ |
| Brzuch | ▼ ▶ | | ▼ | |
| ▶ | | | | |
| Smutek ▶ / Mak | | | | |
| ▶ | | | 📖 | |

# Дапаўненне

У „Зорцы” н-р 40 друкаваўся артыкул „Праз Белавежу ў гісторыю”, пад якім не хапіла прозвішча аўтара. Належыць ён **АЛІНЕ СІРОЦКАЙ**, вучаніцы VIII класа ПШ у Чыжах. Аўтарку і чытачоў просім прабачэння.

**Зорка**



Талон „Зоркі” № 42
18.10.1998

# Дыскусія пісьменнікаў і выдаўцоў

24 і 25 верасня 1998 г. у Гайнаўцы адбылося другое спатканне беларускіх і польскіх пісьменнікаў і выдаўцоў, арганізаванае Таварыствам Польшча-Беларусь, Польскім беларусазнаўчым таварыствам і Таварыствам еўрапейскай культуры, арганізацыямі, якія знаходзяцца ў Варшаве.

Беларускія і польскія госці спачатку сустрэліся ў Доме настаўніка, дзе прывітала іх бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк. Там і адбылася першая дыскусія. Пасля пісьменнікі раз'ехаліся на сустрэчы ў падставовыя школы Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. Пазней абмяркоўваліся спосабы пашырэння кантактаў паміж пісьменнікамі і спосабы папулярызацыі суседскіх літаратур.

— Тут, у Гайнаўцы, хочам адказаць на пытанне, як пераскочыць палітычныя парогі паміж Польшчай і Беларуссю і захаваць добрае супрацоўніцтва ў галіне культуры і літаратуры, — гаварыў Эўгеніюш Кабатц, польскі пісьменнік, сакратар Польскага аддзела Таварыства еўрапейскай культуры. — Мы, польскія пісьменнікі, перакананы, што ў Польшчы наглядаецца дэзінфармацыя аб беларускай палітыцы і культуры. Мы можам мець насталгію па землях, якія зараз у Беларусі, але трэба зразумець сённяшнюю сітуацыю і ладзіць суадносіны. Задумваемся, як справы літаратуры і культуры суседніх нацый паказаць шырэй па радыё, у прэсе і кніжках.

— Сама ідэя польска-беларускіх спатканняў у Гайнаўцы, а гэта ўжо другая сустрэча (першая адбылася 21 студзеня 1996 г.), выклікана была незадаволенасцю цяперашнім супрацоўніцтвам і кантактамі паміж нашымі краінамі, — сказаў прафесар Аляксандар Баршчэўскі, старшыня Польскага беларусазнаўчага таварыства, суарганізатар канферэнцыі. — З болем усрымаем той факт, што наплыў беларускай літаратуры на польскі рынак па сутнасці спынены. Толькі адзін пісьменнік Васіль Быкаў мае неабмежаваны доступ на польскі рынак, але ніхто не можа накінуць волі прыватным выдаўцам. Адваротная сітуацыя ў Беларусі, дзе дзяржава мае ўплыў на выдавецкія справы. У апошніх 2-3 гадах выйшла на беларускай мове кніжка „Філаматы і філарэты", пераклады твораў Норвіда, творы Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, падрыхтаваны два тамы новых перакладаў Адама Міцкевіча і распрацоўваюцца пераклады такога магутнага твора, як „Над Нёманам" Элізы Ажэшка. Таму і паўстала ідэя спаткання пісьменнікаў і выдаўцоў, а найважнейшай справай з'яўляецца зараз ідэя пашырэння наплыву беларускай літаратуры на польскі рынак.

— Што тычыцца перакладаў беларускай літаратуры, дык друкавалі мы творы Васіля Быкава, — інфармаваў Земавіт Фэдэцкі з часопіса „Twórczość". — Хацелі надрукаваць беларускі нумар, але не сабралі адпаведнага матэрыялу настолькі цікавага, каб прыцягнуў увагу чытачоў.

Выдавец і пісьменнік Ромуальд Карась адзначыў, што яго выдавецтва выдала два тамы „Анталогіі літоўскай прозы і паэзіі", якая добра прадалася, што абазначае зацікаўленне палякаў літаратурай суседзяў. Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Міхал Ягела гаварыў пра ідэю выставак кніжак пісьменнікаў з суседніх краін, якую плануе арганізаваць у Нацыянальнай бібліятэцы. Першая выстаўка мае тычыцца беларускіх пісьменнікаў, дзеля чаго намерваецца паехаць у хуткім часе ў Мінск. Такія выстаўкі, паводле былога намесніка міністра культуры і мастацтва Міхала Ягелы, могуць стаць добрым матэрыялам для перакладчыкаў і выдаўцоў.

З Беларусі прыехалі пісьменнікі, якім не чужыя выдавецкія справы, а менавіта Уладзімір Някляеў — паэт, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, Сяргей Законнікаў — паэт і галоўны рэдактар часопіса „Полымя", Генрых Далідовіч — празаік, галоўны рэдактар часопіса „Маладосць" і Галіна Каржанеўская — паэтка, супрацоўнік штотыднёвіка „Літаратура і мастацтва". Яны ў сваіх выказваннях былі згодны, што польскія прыватныя выдавецтвы не зацікаўлены беларускай літаратурай і трэба самім шукаць кантактаў. Пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч высока ацаніў беларускую літаратуру, якой, паводле назірання пісьменніка, цікавяцца і ў Еўропе, і ў свеце, а толькі беларускі чытач яе не цэніць.

Час пакажа, ці сустрэча выдаўцоў прынясе плён у выглядзе новых перакладаў беларускай літаратуры на польскую мову.

**Аляксей Мароз**

# Сустрэчы „Беласток — Гродна"

Шэсць гадоў таму па ініцыятыве ГП БГКТ пачалося супрацоўніцтва паміж Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы і Саюзам палякаў Беларусі. З таго часу кожны год адбываюцца навуковыя польска-беларускія канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці" і фестывалі з удзелам польскіх мастацкіх калектываў з Гродзеншчыны і беларускіх з Беласточчыны.

Летась такі фестываль праводзіўся ў Беластоку, а сёлета ўжо VI Фестываль артыстычных сустрэч „Беласток — Гродна" адбыўся 27 верасня ў Гродне.

Урачысты канцэрт пачаўся прамовамі Івана Яновіча — намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Тадэўша Малевіча — намесніка старшыні Саюза палякаў Беларусі, Людмілы Кадзевіч — дырэктара аддзела культуры гродзенскай абласной управы. Ад БГКТ прамаўляў Ян Сычэўскі — старшыня ГП БГКТ, пасол Сейма Рэчы Паспалітай. Прамоўцы гаварылі аб значэнні сустрэч ва ўмацаванні дружбы і супрацоўніцтва паміж беларусамі Польшчы і палякамі Беларусі, а таксама аб спрыянні гэтым нацыянальнасцям з боку ўрадаў. Успаміналі яны таксама і аб навуковай канферэнцыі ў Навагрудку, на радзіме вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, якая была прысвечана 200 гадавіне з дня яго нараджэння. Быў гэта другі дзень навуковай канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці" (першы і трэці дзень праходзілі ў Гродне). Удзельнікі канферэнцыі прысутнічалі і на вялікім фестывальным канцэрце.

Вядучымі фестывалю былі Уладзіслаў Сілкін — рэжысёр пастаноўчай групы Польскага тэатра ў Гродне і сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Яна на беларускай мове запрашала на сцэну беларускіх самадзейнікаў з Беласточчыны, а Уладзімір Сілкін — на польскай мове — польскія гурты з Гродна.

З Беласточчыны на VI Фестывалі ў Гродне выступілі: хор БГКТ з Беластока, „Арэшкі" з Арэшкава, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, „Каласкі" з Беластока, „Расспяваны Гарадок", „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Чыжавяне" з Чыжоў, „Рэчанька" з Козлікаў, „Ас" з Беластока і салістка Ала Дубец. Усе выступленні нашых калектываў успрымаліся моцнымі апладысментамі публікі.

Адметнымі былі выступленні гродзенцаў. Ансамбль песні і танца „Хабры" з Гродна прыгожа выканаў „Люблінскую сюіту", „Вянок кашубскіх танцаў" і „Паланез". Хор польскай песні „Ютшэнка" (з пяццю інструменталістамі) з Поразава праспяваў песні „Лілеі" (словы Адама Міцкевіча), „Пасьруд вышсткіх жыця троск" і „Чэму жэсь мне, матуленько". Адчувалася, што выканаўцы любяць сваю нацыянальную мову і польскую песню. Гэтае ж саме можна сказаць і аб вакальнай групе „Струбнічанка" з вёскі Струбніца Мастоўскага раёна. Песні „Коло вёскі Струбніца", „О цыганах" і дыялог „Ясь і Кася" вельмі спадабаліся слухачам. Народны хор польскай песні „Промень" са Шчучына і вакальная група „Канцілена" з Ваўкавыска заспявалі таксама па тры песні.

Варта адзначыць той факт, што ва ўсіх польскіх гуртах большасць складае моладзь, чаго можа пазайздросціць БГКТ.

Добра развіваецца мастацкая самадзейнасць у мястэчку Радунь Воранаўскага раёна. Адтуль на фестывалі выступіў фальклорны гурт беларуска-польскай песні „Пшыяцюлкі", які заспяваў польскую народную песню „Погнала волкі на Буковінэ" і беларускую „Каліна ў лесе пахілілася". А калектыў песні і танца „Радуньске словікі" паказаў сваё майстэрства ў польскім народным абэрку і паланезе, а таксама ў вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі „Сонца і дождж".

Фестываль завяршыла песня „Люблю наш край" Канстанцыі Буйло, якую супольна выканалі ўсе калектывы. Нязвыклае было гэта відовішча. Услед за беластачанамі прысутныя падняліся і слухалі стоячы.

Пасля паплылі сардэчныя падзякі гаспадароў для ўсіх прыбылых на фестываль, асабліва для самадзейнікаў з Беласточчыны. Ад імя ГП БГКТ дзякавала гаспадарам і арганізатарам мерапрыемства Валянціна Ласкевіч, моцна падкрэсліваючы гасцінны прыём і ўсю тую мілую і дружалюбную атмасферу, якой былі акружаны калектывы і ўдзельнікі з Беласточчыны. Асаблівая ў гэтым заслуга Марыі Біруковай — намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама, якая ўзначальвала аргкамітэт мерапрыемства.

**Міхась Хмялеўскі**

# Міцкевіч: зямля, культура, памяць

[1 ☞ працяг]

***рані яго беларускія... „І тым павінны ганарыцца абодва народы-суседзі, народы-браты. Ці не настаў час сказаць прама, што Адам Міцкевіч — польскамоўны паэт і самой Беларусі, прыналежны беларускай гісторыі і ўласна беларускай літаратуры? Гэта найбольш адпавядае ісціне", — пісалі беларускія даследчыкі Вячаслаў Вайткевіч і Алег Лойка („Зорка Адама Міцкевіча", у кнізе „Міцкевіч і Беларусь") ужо дзесяць гадоў таму.***

— Беларусы могуць чэрпаць з яго творчасці. Міцкевіч можа быць паэтам беларусаў, але не беларускім паэтам!

***— А што датычыць сяброў Міцкевіча — Яна з Мышы (так называлі філамата Яна Чачота) і Тамаша Зана ці хаця б Уладзіслава Сыракомлі, якіх на Беларусі лічаць польска-беларускімі пісьменнікамі?***

— Былі яны палякамі, бо стваралі польскую культуру, свядома, аднак, падтрымліваючы культуру беларускую.

***— Канферэнцыя была вельмі цікавая, слова „беларускі" нярааз паяўлялася на вуснах дакладчыкаў. Шкада, што не было нікога з Мінска: магла б атрымацца небанальная палеміка...***

— З Беларусі прыехаў толькі прадстаўнік Саюза палякаў Беларусі. Прафесар Гродзенскага універсітэта Ксенафонт Лецка прыслаў свой даклад. Было некалькі асоб з дакладамі з Вільні.

Але наогул зацікаўленне сёлетняй канферэнцыяй было вялікае. Людзі трапна зразумелі формулу: зямля Міцкевічаўскай памяці, — і зачытвалі даклады з пагранічча культуры, гісторыі. Яго памяць звязана не толькі з яго паэзіяй.

Практычна былі тут прадстаўнікі ўсіх акадэмічных цэнтраў Польшчы. Адну трэцюю ўдзельнікаў складалі беластоцкія даследчыкі. Было шмат маладых, але былі і 93-гадовыя ўдзельнікі, як хаця б сп. Аляксандр Зуеўскі, што падпальваў вогнішча ў Старой Белавежы, ях 84-гадовая прафесар Ірэна Славінская, якая зачытала цудоўны даклад: „Мая дарога да «Дзядоў», як 83-гадовы кампазітар і прафесар Вітальд Рудзінскі, які дэманстраваў песні Манюшкі з кампактных пласцінак.

Незабыўнае было выступленне вучняў Ляснога тэхнікума ў Белавежы. Адзін калектыў дэкламаваў фрагменты з IV кнігі „Пана Тадэвуша", а ўтарыў ім калектыў сігнальшчыкаў.

***— Чым на штодзень займаецца Ваша кафедра?***

— Менавіта тэорыяй літаратуры і даследамі чалавека пагранічча.

***— Пагранічча ёсць і з гэтага боку. Ці беларуская літаратура Беласточчыны знаходзіцца ў сферы вашых зацікаўленняў?***

— Я асабіста перакладала творы Яна Чыквіна на польскую мову. А таксама кіравала магістэрскай працай пра эміграцыйную беларускую паэтку Наталлю Арсенневу. Асістэнтка нашай кафедры Малгажата Совуль даследавала гісторыю аматарскага тэатра на Беласточчыне, у выніку чаго выйшла з друку кніга „Тэатр і антрапалогія".

***— А ці цікавіўся ў вас хтосьці калегамі Міцкевіча з Беласточчыны, як хаця б дзекабрыстам і філаматам Міхалам Рукевічам з Завыкаў, які загінуў у Сібіры? А мо Міхалам Баброўскім з Вулькі-Выганоўскай, прафесарам-славістам Віленскага універсітэта, ці першай беларускай газетай „Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага, ураджэнца Мастаўлян, замучанага ў Вільні царскімі сатрапамі за ўдзел у паўстанні 1863 года? Універсітэт жа ў Беластоку ўжо не філіял, забаўляе да многага, а перш за-ўсё да даследаў над мінулым сваёй зямлі.***

— Пакуль што гэтымі асобамі ніхто не займаўся, але дзякуй за сугестыю. Думаю, што варта зацікавіць гэтым некага з магістрантаў.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыла Ада Чачуга**

# Царква ў Вэрстоку

Першая пісьмовая згадка пра Вэрсток памечана пад 1574 годам. Гэты населены пункт узнік ля вытокаў ручайка, які ўліваецца ў раку Арлянку. Першапачатковая назва вёскі — Верхсток — абазначала пачатак ручая, рэчкі. Дакумент ад 1625 года паведамляе, што каралеўскія сяляне Вэрстоцкай маёмасці скардзіліся на сваіх арандатараў Станіслава Няміру, кашталяна падляшскага і пана Аборскага, уладальніка Далубова. У ім чытаем: *... iegomość pan Podlaski pędził do Niemierowa y z wozami y z sochami y z wołami y do żniwa, gdzie chodzić tak daleko na robotę, bo gdybyśmy iuż w polu wszystko iegomość panu Podlaskiemu zarobili i zasieli, tedy nam kazał iegomość sobie sypać wał koło miasta. A potem puścił nas iegomość pan Podlaski iegomość panu Oborskiemu, który także nas ciemięży pędząc nas w tydzień z drzewem z puszczy Białowieżskiej do maiętności swej do Dołubowa ... a obecnie biją do więzienia sadzają, grabią tak że iż przed łupieżstwem zumrzeć nam przyjdzie...* Вэрсток і навакольныя вёскі насялялі сяляне рускага паходжання, аб чым сведчаць іхнія імёны: *Грыц, Вакула, Амяльян, Карніла, Васька, Майсей, Трахім.*

Царква ў Вэрстоку напэўна існавала ў XVII стагоддзі, а доказам гэтаму з'яўляецца дакумент ад 1766 года, у якім пішацца: *w ktorym to Wersztoku, ich świadczą nasze dowody, była cerkiew ritus parochialna ale z niedostateczną dla sustentacyi kapłanow sufficiencyją y exdotacyą, przeto w czasie upadła.* У прыходзе ўрачыста адзначаецца свята Успення Прасвятой Дзевы Марыі. Святкаванне мае доўгую традыцыю, паколькі ў гонар менавіта гэтага свята была пасвячана першая царква, якая, праўдападобна, стаяла на гэтам жа самым месцы. Аднак не хапіла добрай волі „апекуноў" (kolatorów), каб утрымаць у добрым стане царкву для праваслаўнага насельніцтва. *Wizyta* царквы ў Дубічах ад 1726 года паведамляе, што вёскі Вэрсток і Курашава належалі Дубіцкаму прыходу, Войнаўка і Палічна — Амельянецкай царкве (цяпер у Рэспубліцы Беларусь), а Вітава — прыходу ў Старым Корніне. Астатнія вёскі: Старына, Якубава, Пяскі, Доўгі Брод узніклі пад канец XVIII стагоддзя як пасяленні асочнікаў, якіх галоўным абавязкам была ахова пушчы.

Чарговая згадка — гэта фондавы запіс уладальніка маёмасці Вэрсток Юзафа з Вільчэва Вільчэўскага ад 1766 года: *... Chwale Boską restaurować y aby wiecznemi czasami trwała, ufundować, nayprzód de nowaradice cerkiew arcypotrzebną w tym horyzoncie pod tytułem Świętego Krzyża erygowałem y wystawiłem w ołtarze apparaty y oddaję pro filie pryncypalney cerkwi w Dubiczach.*

Пабудаваная ў 1768 годзе царква ў Вэрстоку была філіяльным храмам прыхода Дубічы-Царкоўныя. Фонд устанаўліваў *ks. wikarego oraz dwóch diaków, z których jeden pod rejestrem za krystię trzymał. Na osobę wikariusza i dwóch diaków, proporcjonalną i przyzwoitą dla każdego subwencję przyznał i zapisał sumę 14 000 złotych polskich. Ksiądz pleban dubicki teraźniejszy i następny będą od tej sumy pobierać prowizję. Fundusz cerkwi werstockiej zapisany w gotówce nie ma gruntów, jedynie potwierdza plac cerkiewny, plac z ogrodem oraz siedlisko.* Пералічаныя грошы размешчаны былі наступным чынам: *3 350 złotych polskich (złotem ważnym obronczkowanym) ulokowano na dobrach Dubicze Murowane, Tofiłowce i Sobotka u Michała Wielowiejskiego cześnika Żydaczewskiego. 2 000 złotych polskich (złotem ważnym obronczkowanym) na tych samych dobrach Michała Wielowiejskiego. 4 000 złotych polskich moneta nowa srebrna ulokowano w kahale Orlenskim. 4 650 złotych polskich lokować ma w miejscu pewnym.*

Метрычныя кнігі 1798-1801 гадоў служаць доказам таму, што ў той час вэрстоцкая царква была ўжо прыходам. У 1869 годзе праводзіўся капітальны рамонт царквы, падчас якога дабудавалі рызніцу і панамарку, царкву паставілі на фундаменце, звонку абшылі дошкамі, а ўсярэдзіне зрабілі іканастас. Ужо ў XX стагоддзі з заходняга боку была дастаўлена званіца.

У міжваенны перыяд царква не атрымала юрыдычнага статусу ні прыхода, ні філіі і была толькі няштатнай царквой (приписной церквой) прыхода ў Амельянцы. Самастойны прыход у Вэрстоку быў адноўлены ў 1940 годзе. Пасля II сусветнай вайны адрамантаваная царква ўзбагацілася на новыя званы, а сам храм быў абведзены жалезным парканам на мураваным фундаменце з белай цэглы. У 1980-1982 гадах праведзена была рэстаўрацыя самых старадаўніх ікон II паловы XVIII стагоддзя, у прыватнасці святых апосталаў Андрэя, Фадзея (Іуды Іакавага), Фамы, Філіпа, Сімана, Іакава Зевядзеевага, а таксама „Пакланенне пастыраў". Адноўлены былі таксама пяць ікон таго ж перыяду, а менавіта: „Прарок Майсей і Аарон", „Укрыжаванне Хрыста", „Хрыстос у Гефсіманіі" і „Хрыстос падаючы пад Крыжам". У 1988 годзе праводзілася грунтоўнае аднаўленне ківота іконы „Успенне ПДМ" II паловы XVIII стагоддзя. Да нашага часу захаваліся таксама царкоўнае евангелле і апостал з уласнаручным надпісам фундатара *J[ózef] z [Wilczewa] Wilczewski Podkomorzy P[odkomorzy] Z[iemi] W[iskiej] prosi o modlitwy.*

Царква цяпер знаходзіцца ў адпаведным стане, унтуры і звонку памаляваная алейнымі фарбамі, а іканастас — пазалочаны. На двары ўзведзены мураваны прыхадскі дом. Прыход састаўляюць наступныя вёскі: Вэрсток, Лазіцы, Якубава, Пяскі, Забагонне, Доўгі Брод, Вілюкі, Палічна, Курашава, Гурны Груд, Старына, Пасечнікі-Малыя, Апака-Вялікая (з царкоўкай) і Войнаўка. Праўда, з кожным годам пастаянна змяншаецца лік жыхароў у выніку міграцыі маладых вяскоўцаў у гарадскія цэнтры і адыходу старэйшых людзей на вечны спачын. А сама прыхадская царква, добра ўтрыманая, з'яўляецца цікавым архітэктурным помнікам на ўзбярэжжы ляснога комплексу колішняй Белавежскай пушчы.

**Р. С.**

Князь вайны — Сталін

# Спроба абагатварэння

У варшаўскім кіно „Мурануў" ў маі 1998 г. паказалі кінастужку Кшыштафа Новака-Тышавецкага „Боскасць Сталіна". Потым паўтарылі яе ў тэлебачанні.

Горш за ўсё ў канцэпцыі аўтара гэта тое, што, маўляў, польскі грамадзянін дасканала ведае ўсе ганебнасці гэтага ваеннага злачынца. Катынь — больш-менш усе ведаюць, але апрача знішчэння 15 тысяч польскіх афіцэраў, на руках гэтага „цёплага рамантыка" ляжыць кроў 20 мільёнаў людзей! Тамерлан (1336-1405) сыпаў піраміды з чалавечых галоў, але Сталін яго абагнаў. Для яго ні святар, ні епіскап, ні мітрапаліт не значылі нішто. Выкідванне мёртвых дзяцей з цягніка, едучага ў Сібір — нішто...

І вось у горадзе Горы ў Грузіі (50 тысяч жыхароў), дзе тыран радзіўся, прэзідэнт Эдуард Шэварднадзе сарганізаваў у тамашнім Музеі Навукова-даследчы цэнтр вывучэння феномена І. В. Сталіна. Вядомыя навуковыя работнікі, філосафы, эканамісты фармулююць там думкі і погляды, ад якіх валасы дыбам становяцца.

Яны вырашылі, што Катынь быў зроблены згодна з рашэннем **справядлівага** закона і што ніякіх дакументаў не засталося, хаця тэлебачанне паказала ўжо паперу з подпісамі Сталіна і Берыі. За гэта трэба зрабіць міжнародны суд. На шчасце для „падсуднага" ён у муках адзінока памёр. Ды Захад яго баяўся.

Прага рэабілітаваць, апраўдаць камунізм давяла вось да якіх слоў: „Камунізм як адзіная справядлівая сістэма ніколі Бога не адкідаў". А нат цяпер дзейнічае толькі **адна дзесятая** частка дзяржаўлыйных цэркваў, а быў час, калі Румынія мела іх больш чым СССР.

Джугашвілі быў трусам, бо меў аж двух двайнікоў, калі ў той час Пілсудскі адзін пехатой хадзіў з Бельведэра на Каралеўскі замак у Варшаве.

Сталін як быццам „сапраўды ўражлівы аж да болю ўкрываў сваю (можа не да канца свядомую) веру ў Бога". Рабіў гэта аж надта добра...

Ленін не мог Сталіна сцярпець з-за яго грубасці (і лаянкі) ды ў свайм запавеце напісаў, што той не можа ўзначальваць партыю. Гэтая „рэкамендацыя" была засакрэчана і знішчана „геніем".

І вось арэапаг з Горы даў заключэнне, якое не патрабуе ніякага каментарыя. У гісторыі свету было толькі некалькі сапраўды вялікіх асоб: Хрыстос, Магамет, Канфуцый, Напалеон, Аляксандр Македонскі. Сталін без сумнення таксама залічваецца да гэтай групы.

Вайну выйгралі перш за ўсё маршалы Жукаў, Ракасоўскі і Конеў, а не генералісімус.

Новак-Тышавецкі, „ни к селу, ни к городу", уключыў у фільм царкоўны гімн Архангельскага, а закончыў цытатай з Адкрыцця Іаана Багаслова пра звера, якому ўсе пакланяюцца акрамя святых.

Дачку сваю Святлану (Алілуеву) Сталін называў „каханым верабейчыкам". Трымайся я з ёю за ручку ў варшаўскім парку! Халодная, непрыгожая. Яна цяпер дажывае свой век у лонданскім доме для адзінокіх жанчын.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Канферэнцыя праваслаўных катэхетаў

**— Катэхеза — гэта найважнейшая справа для быту праваслаўных і Царквы, — гаварыў візітатар Божага закону айцец Мікалай Келбашэўскі. — Кожны катэхет павінен таксама звяртаць увагу на грамадскія справы і падрыхтоўку да жыцця ў сям'і.**

28 верасня 1998 года ў Доме настаўніка ў Бельску-Падляшскім адбылася канферэнцыя праваслаўных катэхетаў падставовых і сярэдніх школ, сярод якіх выдатную большасць састаўлялі свяшчэннікі.

Прывітаўшы епіскапа Бельскага Грыгорыя, прысутныя пачалі абмяркоўваць змены ў польскіх законах, якія тычацца Праваслаўнай царквы. Яраслаў Матвіюк, выкладчык Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, напомніў пра найважнейшыя змены, якія ўвёў закон аб Аўтакефальнай праваслаўнай царкве, прыняты ўжо даўней польскім парламентам. Пазнаёміў таксама прысутных з некаторымі зменамі, якія павінны быць прыняты ў адносінах да Праваслаўнай царквы польскім парламентам і ўрадам (гарантуе гэта Канстытуцыя), у сувязі з прынятым у гэтым годзе канкардатам з Ватыканам (які тычыцца каталіцкіх вернікаў).

Дзяржавай фінансаваныя будуць вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія дагэтуль фінансаваліся вернікамі. У свецкіх вышэйшых установах можна будзе адкрываць тэалагічныя аддзяленні і зараз вядуцца ўжо размовы з уладамі Універсітэта ў Беластоку наконт стварэння Кафедры праваслаўнай тэалогіі. Можна будзе весці заняткі закону і ў прадшколлях, будуць яны фінансавацца дзяржавай. Настаяцель будзе ўжо вырашаць ці хаваць на могільніку людзей іншых веравызнанняў, што можа быць клопатам, асабліва ў тых мясцовасцях, дзе мала праваслаўных, гаварыў Яраслаў Матвіюк. Шлюб у царкве будзе мець такую самую юрыдычную сілу, як шлюб перад гмінным урднікам.

Урад пацвердзіў, што ўсе касцёлы, якія ўваходзяць у Польскую экуменічную раду, атрымаюць тыя самыя правы, што і Каталіцкі касцёл. Дыскусія тычылася таксама і маёмасці, якой будучыня яшчэ не вырашана, бо патрэбны адпаведныя юрыдычныя пастановы. Ад гэтага года Праваслаўную семінарыю можна будзе лічыць праваслаўнай вышэйшай установай, а яе выпускнікі будуць паступаць адразу на III курс Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі.

Арганізатары канферэнцыі напаміналі, што абавязак улад — фінансаваць навучанне закону асобна, калі ў класе больш чым 7 вучняў, якія ахвотныя хадзіць на заняткі. Ян Зенюк расказаў пра свае ўражанні ад паездкі на Агульнапольскі з'езд настаўнікаў, які на працягу трох дзён праходзіў у Познані. Прымала ў ім удзел каля сямісот настаўнікаў з усёй Польшчы, а ў гэтым ліку 300 настаўнікаў з вышэйшых устаноў.

Візітатар закону Божага айцец Мікалай Келбашэўскі звярнуў увагу на тое, што кожны катэхет павінен ведаць узровень сваіх вучняў і да гэтага дастасоўваць заняткі.

**Аляксей Мароз**

Успаміны з мінулай эпохі

# Ад студзеня да мая

Даволі цікавым і багатым у падзеі быў для мяне 1984 год. Распачаўся ён, як і кожны год, навагоднімі святамі. Навагодніх святаў у нас два: Новы год па новаму стылю і старому.

Новы год па новаму стылю сустракаў я ў роднай вёсцы з бацькамі. У маёй вёсцы гэты Новы год не святкуецца. Мы білі вепрука і рабілі каўбасы. Атрымаліся яны, як і штогод, цудоўныя. А дадаўшы да іх жытні хлябец і хрэн маміпай работы, то проста любата, не хапае нават адпаведных слоў для пахвалы. Гэтымі далікатэсамі я там ласаваўся і дамоў у горад прывёз. Ой, як добра было мець бацькоў.

Новы год па старому стылю я праводзіў у горадзе. У гонар сустрэчы гэтага Новага года быў арганізаваны мясцовым гуртком нашага беларускага таварыства баль. На баль прывалíла мноства народу і не ўсім ахвотным удалося дастаць на яго білеты. Цана аднаго білета 400 злотых. Выпіўка і закуска свае. На выпіўку трэба было браць спецыяльны дазвол у беластоцкага ваяводы. І ён даў такі дазвол.

Асабіста я на баль гэты ішоў нейк неахвотна, але потым раскруціўся і быў задаволены, хаця і не абышлося мне на ім без казусаў. Першая непрыемнасць паявілася адразу. Як толькі селі за стол, аказалася, што за нашым сталом я найстарэйшы. „Растуды вашу маць, — сканфужана падумаў я, — калі ж вы ўспелі ўсе так памаладзець?” Мне гэта адразу не спадабалася, я не любіў тады, як мяне называлі дзядзькам. А і цяпер лічу, што калі жанчыны маладыя — гэта добра, але калі каля іх круцяцца і маладыя мужчыны — гэта проста невыносна для старэйшых. Тым больш, што ўсе жанчыны каля нашага стала аказаліся сімпатычныя, прыгожыя.

Другая непрыемнасць паявілася ўжо апоўначы. Пасля ўсеагульных лікаванняў, віншаванняў, цалаванняў з нагоды толькі што наступіўшага Новага года, хтосьці ўспомніў, што сёння ж дзень Васілія Блажэннага, чыім слаўным і святым імём мяне калісьці назвалі. І ўвесь п'яны натоўп ірвануў да маёй таксама падпітай асобы, бесцырымонна змяў мяне, уціснуў у крэсла і з песнямі „Сто лят”, „Многае лета” гайда ўверх! Хутка аднак задыханыя віншавальнікі апусцілі мяне на падлогу са словамі: „Калі не схуднееш, на наступнага Блажэннага падымаць не будзем, так і знай”. Ці ж не крыўдна такое слухаць?

На спанне аставалася часу мала, з танцаў вярнуліся каля сёмай гадзіны раніцы, а пасля абеду трэба было чакаць гасцей. І яны прыйшлі, чалавек пятнаццаць. Сядзелі доўга. Пасля іх выходу хата апусцела, халадзільнік і алкагольны „барэк” таксама, а сам віноўнік урачыстасці ледзь жывы. Радавала ў той час толькі адно — што да наступнага Блажэннага яшчэ так многа-многа часу.

Далей варта затрымацца на месяцы маі. Май у Гайнаўцы і на Гайнаўшчыне — гэта спецыфічны месяц. У ім найбольш поўна і пышна прэзентуецца не толькі ўсё багацце і прыгажосць нашай мясцовай прыроды, але і культуры. Гэта ж дні царкоўнай музыкі калісь і фестываль гэтай музыкі цяпер.

У 1984 годзе гэта быў ужо, здаецца, трэці конкурс царкоўнай музыкі і працягваўся тры дні. Выступалі як царкоўныя, так і свецкія хоры. Вялікую цікавасць выклікаў студэнцкі хор з Фінляндыі. На мой густ усе спевакі і хоры спявалі прыгожа, а некаторыя проста цудоўна. Усе гэтыя тры дні мы з жонкай калом стаялі ў Саборы Святой Тройцы і захапляліся. Трэба сказаць, што моцная рэч царкоўная музыка. Яна проста выварочвае чалавечую душу і змушае задумацца над сэнсам жыцця ўвогуле і свайго асабістага.

Другой важнай майскай падзеяй былі для мяне хрысціны. Тыя хрысціны, на якіх мелі прыемнасць і гонар і я з жонкай пабываць, былі ў вёсцы Кленікі. Хрысцілі ўнука майго дваюраднага брата — і далі яму імя Пётр, будзь яно яму шчаслівым. Хрысціны былі вялікія — на бутэлек семдзесят, шумныя і багатыя як у матэрыяльным сэнсе, так і з захаваннем традыцыі. З такім размахам і фантазіяй падобныя мерапрыемствы ўмеюць у нас яшчэ рабіць толькі на вёсцы, хаця і туды пачалі ўжо пранікаць усялякія псеўдакультурныя з'явы, якія толькі калечаць традыцыйную вясковую гасціннасць з душой нараспашку.

Прынялі нас вельмі душэўна як гаспадары, так і госці. Многія падыходзілі, каб чокнуцца з панам прафесарам і яго дастойнай жонкай. З падобным прыёмам я сустракаюся даволі часта на вёсках. І гэта крыху здзіўляе мяне, бо ўсім вядома, што вяскоўцы не надта любяць гарадскіх, а гарадскія — вясковых.

Вяртаючыся да асобы пана прафесара, трэба прызнацца, што ён даволі хутка начокаўся і з гэтага повяду жонка ў самым разгары песні-танца, прымяняючы нават фізічнае насілле, пагрузіла яго ў першую папаўшую машыну і пад суровым канвоем адправіла дадому. Калі я зразумеў трагізм свайго палажэння, пачаў люта бараніцца: „Як смееш нарушаць правы чалавека, так цвёрда гарантаваныя мне міжнароднай канферэнцыяй у Хельсінкі!” і ўсё такое іншае...

Але ўся мая палітычная эрудыцыя поспехаў не мела. Машына поўным ходам пёрла намечаным жонкай маршрутам, а сама яна была непрыступная як старшы інквізітар. Яшчэ я не закончыў свайго маналога, як прыказана было мне высядаць — мы прыехалі. Жонка міла развіталася з шафёрам, а мяне, ужо сам-насам, пакрыла такім матам, што будзь здароў. Жончынага мата не прывяду тут па прычынах вымогаў проціпажарнай аховы, бо ад такога мата магла б загарэцца папера.

Разважаючы ўжо па-цвярозаму, жонка дзейнічала, канешне, лагічна...

**Васіль Сакоўскі**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**
**Частка XIX**
*(заканчэнне)*

Пасля вызвалення Гродна ад нямецкай акупацыі мяне з братам Іванам іэноў прызвалі ў рады Чырвонай Арміі, але па загадзе Сталіна ўсіх былых настаўнікаў ад вайсковай службы вызвалілі, таму што не было каму вучыць дзяцей. Школы былі немцамі разбураны. Я, як настаўнік, атрымаў вайсковую бронь. З 1944 года па 1945 год працаваў у Лашанскай сямігадовай школе Гродзенскага раёна ў якасці завуча (загадчыка навучальнай часткі). З верасня 1945 года па верасень 1946 працаваў дырэктарам у Капцёўскай сямігадовай школе. З верасня 1946 года змушаны быў перайсці працаваць настаўнікам у Гродна, бо прывезлі майго брата Івана, параненага, без адной нагі, зусім слабога. Нагу яму адарвала пад Кёнігсбергам. Інваліду не было да каго прытуліцца. На вёску, да сябе, я не мог яго ўзяць. Не было ў мяне ніякіх ўмоў для яго лячэння. Па гэтай прычыне я перайшоў працаваць настаўнікам у гродзенскія школы. З верасня 1946 года па жнівень 1948 г. я працаваў настаўнікам у польскай сярэдняй школе № 2. Пасля гэтага, з жніўня 1948 года па верасень 1949 года быў дырэктарам Калбасінскай пачатковай школы Гродзенскага раёна. Жыў у Гродне разам з братам, дапамагаў яму чым толькі мог, каб падтрымаць хоць крыху стан яго здароўя. З жніўня 1968 года па верасень 1970 года я працаваў дырэктарам Батароўскай васьмігадовай школы.

Хачу сказаць, што пасля нямецкай акупацыі, калі я працаваў настаўнікам у Лашанскай школе, у мяне былі вялікія непрыемнасці з КДБ. Была глыбокая восень. Аднойчы, пасля заняткаў у школе, правёўшы шэсць урокаў, я прыйшоў да хаты селяніна Аляксея Баліцкага, у якога кватараваўся і сталаваўся. Раптам у хату ўвайшлі двое кадэбістаў, добра падвыпіўшых. Як пазней даведаўся, прозвішча аднаго з іх Шаляпін, другога — Іваноў. Яны са мною прывіталіся, назвалі нават мяне па імені і па бацьку. Затым папрасілі гарэлкі. Гаспадар мой якраз рыхтаваўся да вяселля, нагнаў быў самагонкі. Пачуўшы просьбу, ён прынёс бутэльку і паставіў на стол, а дачцэ сваёй, школьніцы, загадаў падсмажыць яек на закуску. Але кадэбісты, не чакаючы закускі, папрасілі тры шклянкі, налілі ў іх самагонкі і выпілі. Затым паўтарылі і запрапанавалі выпіць і мне. Я сказаў, што без закускі не магу выпіць. Тады адзін з іх, Шаляпін, ударыў мяне па твары і абліў самагонкай, крычучы матам. Гаспадар з гаспадыняй і дзецьмі спалохаліся, уцяклі з хаты, пакінуўшы мяне аднаго з кадэбістамі. Шаляпін ударыў мяне зноў па твары і заявіў, што я арыштаваны. Загадаў мне адзецца, затым мяне вывелі на вуліцу. Была цёмная восеньская ноч. Шаляпін, ідучы за мной, з размаху ўдарыў мяне прыкладам аўтамата ў плечы. Дзякуючы куртцы, якая была на тоўстай ваце, ад першага ўдару я моцнага болю не пачуў. Затым ён паўтарыў, а калі я павярнуўся тварам да яго, ён выстраліў з аўтамата ўверх.

Указаныя кадэбісты загналі мяне ў сельсавет, які быў у канцы вёскі і кінулі, як яны называлі, да бандытаў, якіх прыгналі са шляхецкіх аколіцаў. З імі мне давялося прасядзець усю ноч. Арыштанты думалі, што я сапраўды з'яўляюся нейкім шпіёнам. Звярталіся да мяне, пыталі па-польску, ці сапраўды мяне выкінулі англічане на парашуце. Мне не да размовы было. Я ведаў, што заўтра ўжо буду ў Гродне ў турме. Шкада было жонкі і дзяцей...

З гэтымі бандытамі, як іх называлі кадэбісты, а былі гэта мужчыны, паляkі, якія не хацелі ісці ў савецкую армію і хаваліся, я прасядзеў усю ноч. За ноч, відаць, самагонка кадэбістам прайшла. Яны раніцай прыйшлі ў сельсавет. Мяне паклікаў Шаляпін у асобны пакой і запытаў, ці я помню, што ўчора адбылося. Сказаў, што я прыйшоў п'яны, прыставаў да гаспадара і яны вымушаны былі часова мяне затрымаць у сельсавеце. На гэта я ім нічога не адказаў, ведаў, што з імі, як кажуць, кашы не зварыш. За імі права, што хочуць, тое і зробяць. Шаляпін падсунуў мне паперу і загадаў напісаць наступнае: „Я, такі і такі, «обязуюсь», что вчера было, держать в военной тайне, иначе отвечаю пред военным трибуналом”. Я падпісаўся, пасля чаго быў вызвалены ад арышту.

Назаўтра вестка аб маім арышце аблецела ўсю вёску. Насельніцтва было запалохана дзейнасцю гэтых кадэбістаў, кожны баяўся і слова сказаць, каб не пасадзілі ці не пабілі, хаця добра ведалі, што яны вытвараюць. Ведалі, што ў вёсцы Рагачы загадалі старшыні сабраць з насельніцтва трыццаць аскубаных курэй і даставіць у сельсавет. У млыне Вайтаўшчыне, у вёсцы Балічы, узялі ў млынара тры мяшкі пшанічнай мукі. У вёсцы Лаша кадэбіст Шаляпін хацеў згвалтаваць вучаніцу 8-га класа, але да таго не дапусціў яе бацька, якога Шаляпін за гэта пабіў. Адным словам, кадэбісты па вёсках гулялі, арыштоўвалі, саджалі ў турмы і ніякай управы на іх не было, але на гэты раз ім, як кажуць, не пашанцавала. Якраз у вёску Лашу завітаў спецыяльна камандзіраваны з Масквы, строга сакрэтны работнік КДБ па праверцы дзейнасці мясцовых кадэбістаў. Вось ён і даведаўся аб маім незаконным арышце. Аб усім гэтым, відаць, далажыў вышэйстаячым органам. Праз некаторы час Шаляпін быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, не памаглі і яго кадэбісты з Гродна. Мяне вызвалі ў Мінск на вочную стаўку. Каб не вышэйуказаныя абставіны, Шаляпін мяне пасадзіў бы ў турму. Па вёсках ужо збіраў у насельніцтва матэрыялы, каб мяне пасадзіць, альбо, як выражаўся, „нада было его шлёпнуть”...

**Апанас Цыхун**

# Кніжачка аб паўзунах

Асяродак прыродазнаўчай адукацыі Белавежскага нацыянальнага парку з'яўляецца каардынатарам праграмы аховы паўзуноў Белавежскай пушчы. Ён вядзе нагляд над іх папуляцыяй, наладжвае лекцыі для дзяцей і моладзі. Таму нічога дзіўнага, што нядаўна Асяродак выдаў (пры фінансавай дапамозе Фонду „Ekofundusz”) невялікі буклет „Płazy Puszczy Białowieskiej”.

У буклеце знойдзем агульныя інфармацыі пра паўзуноў і апісанні трох выбраных відаў з ліку дванаццаці выступаючых у белавежскіх нетрах. Даведаемся таксама, як ахоўваць паўзуноў, пазнаёмімся і з адказам на пытанне, чаму іх становіцца штораз менш. Увагу ўсіх напэўна прыцягнуць цікавінкі са свету паўзуноў. Вось, напрыклад: жаба можа дажыць аж 36 гадоў, а скача яна на адлегласць 6-7 разоў большую, чым даўжыня яе цела — гэта так, быццам чалавек пераскочыў аўтобус уздоўж.

Буклет змяшчае адпаведны фрагмент паэмы „Пан Тадэвуш” А. Міцкевіча. Ён багата ілюстраваны. Тэкст напісала Малгажата Бушко, кіраўнік Асяродка. Яна таксама сааўтар здымкаў, разам з Феліксам Лябгардам. Графічнае афармленне належыць мастачцы Іаанне Матысэк, якая пастаянна жыве ў Белавежы (яна выводзіцца з роду Косакаў — славутых мастакоў).

**Пётр Байко**

# Прароцтвы нашых людзей

Жыў калісь у Семяноўцы дзед Квэтко. Не ведаю, ці гэта было ягонае прозвішча, ці мянушка, але так яго ўсе называлі. Дзед Квэтко чытаў набожныя кнігі і распавядаў, што мае тварыцца перад канцом свету. Усе з дзеда смяяліся, нярэдка і дурнем называлі. Цяпер той, хто памятае яго словы, кажа, што стары праўду казаў.

Расказваў, што перад канцом свету будуць усе дарогі перакрываваны, і знойдзецца гаворачы абраз, які прыцягне да сябе ўсіх людзей. Прадказаў таксама пабудаванне Семяноўскага вадасховішча. Распавядаў, што будуць пры яго пабудове працаваць машыны, якія самі быдуць капаць і вазіць, а чалавек будзе толькі кіраваць. Пачаць пачнуць, але не тыя самыя кончаць. Будзе дапамагаць капаць войска. Раку Нарву ўжо трэці раз будуць асвойваць для свае мэты. Першы раз адна шляхцянка закахалася ў шляхціча, які жыў на тэрыторыі сённяшняй Рэспубліке Беларусь, і каб лепш было яму да яго і яму да яе ездзіць, сыпала нейкі жоўты пясок, каб зрабіць брод. Другі раз зрабілі мост і клалі рэйкі, каб мог ездзіць цягнік (той стары мост ужо не існуе, новы стаіць у іншым месцы), а вось трэці раз зрабілі вадасховішча. Дзед Квэтко расказваў яшчэ: спачатку людзі будуць цешыцца, бо машыны будуць іх вазіць усюды. А пасля не дазволяць нікому прыблізіцца да сябе!

Як пачалі гаварыць аб ліквідацыі чыгуначнай лініі, я ўспомніла пачутыя ад бубулі словы (дзед Квэтко памёр, калі мая мама была яшчэ дзеўкай). Дзякуючы подпісам, чыгунку пакуль не ліквідавалі, але хто ведае, што будзе далей! Можа, сапраўды нельга будзе нават падысці да пуцёў? А можа дзед Квэтко меў што іншае на ўвазе ў сваіх прадказаннях?

Казаў дзядуля: чалавек чалавека будзе баяцца. Не адрозніш мужчыну ад жанчыны, зіма з зімой будзе сустракацца...

Найгорш непакояць мяне прароцтвы аб войнах, вядома, як кожную маці. Мая пакойная бабуля гаварыла, што перад першай сусветнай вайной людзі казалі, што немец прыйдзе па шапку. Пасля вайны гаварылі, што немец прыйдзе па пояс, а пасля другой вайны — што прыйдзе ён па чаравік. Не дай Божа, каб гэта споўнілася, ды ад Божай волі не ўцячэш ніколі...

Прадказвалі нашы дамарослыя пракокі, што яшчэ татарскі конь у Вісле нап'ецца вады. Можа, вернікі Алаха пойдуць на хрысціян і іншых „няверных"?..

Прароцтва аб „жоўтых плямах" ужо споўнілася. Пасля аварыі ў Чарнобылі ў нас пасля дажджу былі жоўтыя плямы на зямлі. Паяўляюцца яны і цяпер. Прадказвалі яшчэ, што Сярэдняя Еўропа будзе спалена. Адна пакойная ўжо жанчына, якая ў час II вайны разам з сям'ёй хавалася ў лясах, расказвала, што прысніўся ёй страшны сон, як уцякала ад салдатаў і хавалася ў лесе разам з чорным сабакам. Так яно і стала. Пасля вайны прыснілася той жанчыне такое: быццам яна ідзе і сустракае нейкага мужчыну. Ён кажа: „Цяпер вы пераэжылі. Памятайце, што як другі раз будзе, то нідзе не ўцякайце. Сядзіце дома і маліцеся, бо не будзе куды ўцякаць". Праўда, цяпер ад хвалі і промня не ўцячэш... Яшчэ казалі, што будзе ісці чалавек, а тут раптам сам пачне гарэць, і ратунку ніякага не будзе... А мабыць праз тры з палавінай года пачне царстваваць на Зямлі секта сатаністаў. Заб'юць яны шмат людзей, асабліва тых, што не схочуць да іх далучыцца. Прапаведавалі пра „скорбную пячаць", якую „прыставяць к чалу або к грудзям". Многія кажуць, што гэта будуць камп'ютэрныя нумары на пашпартах, якіх код 666. А гэта лічба Сатаны, прадказаная ў Апакаліпсісе. Хто гэты нумар не прыме, будзе праследаваны, але Бог будзе з ім.

У гэтыя ўсе прароцтвы я не верыла, пакуль не развалюўся Савецкі Саюз. І гэта прадказвалі нашы „пракокі", хоць здавалася гэта зусім неверагодным.

**Аўрора**

# Ганебны рэванш

Амерыканцы паказалі свае „дэмакратычныя законы", збамбардзіраваўшы населеныя пункты ў Судане і Афганістане. Тлумачаць яны свету, што ў першай краіне знішчылі яны фабрыку хімічнай зброі, а ў другой далі жару тэрарыстам, якія падкінулі бомбы пад амерыканскія пасольствы ў Афрыцы, дзе загінула больш за 250 чалавек. Вельмі дзіўна, што Амерыка так хутка „расследавала" гэтыя справы і знайшла віноўных. Але чаму, аднак, па сённяшні дзень не расследавала забойства свайго прэзідэнта Джона Кэнедзі восенню 1963 года? Тады, помню, амерыканская прапаганда праз „Свабодную Еўропу" ўнушала, што іхняга прэзідэнта забіў нейкі Освальд, які быў на паслугах савецкай разведкі. Усё гэта было выдумкаю, бо папраўдзе віноўнікам смерці Джона Кенедзі было праслаўленае амерыканскае ЦРУ; цяпер і самі амерыканцы маўчаць у гэтай справе быццам вады ў рот набраўшы. Найлепш зваліць усялякую віну на рускіх або балгараў. І, на жаль, свет верыць гэтым казкам, бо яны выводзяцца з багатай Амерыкі.

У Судане ад амерыканскіх бомбаў загінулі сотні нявінных людзей бо, як высвятлілася, бомбы тыя ўпалі не на завод, які пастаўляў хімічную зброю, а на фабрыку дзіцячых цацак. Таксама і ў Афганістане знішчылі нейкіх нявінных качэўнікаў, якія ў горах знайшлі сховішча ад ахапіўшай усю краіну вайны.

Чаму амерыканцам можна вырабляць розную зброю і пасля прымяняць яе, напрыклад, у В'етнаме, дзе калісьці, як помнім, напальмам знішчалі яны жывую прыроду. А каб Расія дапусцілася такога нападзення на нейкую другую краіну, дык свет з абурэння напэўна ашалеў бы. Амерыканцам усё дазволена і заўсёды яны маюць „рацыю", бо багацце і золата сёння вышэй за людскую справядлівасць і годнасць. На жаль, багаты заўсёды апраўдаецца ад сваіх нікчэмных учынкаў, а бедны — ніколі; нават тады, калі сам сябе бароніць.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я заходжу ў будынак, дзе я працую, але стаяць у ім мае хатнія кветкі, вялікія папараці. Толькі ўсе пакойчыкі там малюсенькія, такія каютачкі, адно на столік і каб стаць. Працуе толькі шэф, за яго пакоем заслона ў дзвярах у другі пакой, а там спіць чалавек.

Выходжу з будынка, а перада мною на небе такі прывід: на троне сядзіць трое маладых мужчын, пад вусікам усе, каля сарака гадоў, інтэлігентна выглядаюць і ў акуратных касцюмах, а наўкол іх дугой — каляровы такі арэол, як на некаторых іконах гірляндь анёлаў, ён варушыцца, пераліваецца, а ў ім — розныя дзікія звяры, быццам пантэры, леапарды, гіены, тыгры і іншыя драпежнікі. Другі раз сняцца мне тыя мужчыны на небе. Людзі кажуць: „Глядзі на іх, на гэтае цуда", але я адказваю: „Я іх ужо бачыла".

**Іда**

Іда! Са сну відаць, што тваё жыццё цесна звязана з прафесійнай працай. Усё цяпло, усе свае надзеі ты як бы перанесла ў будынак, дзе працуеш, бо там ты ўбачыла свае вазоны з дому.

Аднак жа ўбачыла ты там адначасова нецікавыя ўмовы працы: пакойчыкі былі настолькі цесныя, малюсенькія, што не было нават дзе сесці. Баюся, што надзеі на добрае, якія ты звязала з працай, могуць скончыцца нейкім скарачэннем штатных адзінак, напрыклад, або зменшацца твае даходы з працы ў гэтай установе.

У вас там усё залежыць ад траіх даволі маладых мужчын, якія здаваліся табе анёламі (ты ўбачыла іх на небе ў арэоле) і ты меркавала, што пры іх ты будзеш радасная і шчаслівая, будзеш мець душэўную раўнавагу. Сніць анёла — вельмі добра, але ж, бач, у гэтым тваім каляровым арэоле, у гірляндзе анёлкаў, які варушыўся, пераліваўся, ты заўважыла драпежных звяроў: пантэр, леапардаў, гіен, тыграў — якраз найгоршых для чалавека. А бачыць звяроў розных — трапіць у кампанію неадпаведных, нядобрых людзей, быць у небяспецы. Сцеражыся іх, бо найгорш, калі лічыць кагосьці анёлам, а з яго пры першай нагодзе вылазіць дзікі звер. А мо нават ты і не даведаешся, хто ён у сапраўднасці, але драпежнік сваё зробіць.

**Астрон**

# Наша пошта

**Шаноўная „Ніва" і ўсе яе чытачы!**

Пішa Вам Алена Таболіч, выкладчыца Мінскага лінгвістычнага універсітэта, якая пяць гадоў таму працавала ў Гайнаўцы.

Хачу расказаць пра новае пакаленне студэнтаў, якія вучацца ў нас. Што здарылася з беларусамі на Беласточчыне? Ці яны сталі больш лянівымі, ці вы прысылаеце нам самых горшых? У апошнія гады пайшлі нейкія вельмі кепскія студэнты. Я спачатку іх абараняла, заступалася за іх, а цяпер ужо і не хачу гэтага рабіць. Па-першае, не ходзяць на заняткі, асабліва, калі яны з 8 гадзін. Па-другое, раз за разам ездзяць у Польшчу на тыдзень, а то і на два. А ў нас прапусціш заняткі, сам ужо не адолееш дагнаць — такая спецыфіка. Па-трэцяе, кепска ставяцца да беларускай мовы і прабуюць гаварыць на рускай нават са мною. Тыя, хто працуюць, хутка даганяюць нашых у вучобе (напрыклад, Юры Герасімюк, Аня Аўласюк, Яна Кандрацюк). Але ёсць і ляніўцы! Мне вельмі прыкра і непрыемна, бо я прывезла з сабою нейкі іншы „імідж" пра беларусаў з Беласточчыны. Ці я памыляюся? Ці вы змяніліся?

Мы разумеем, што адаптавацца цяжка ў чужой краіне, але ж нашым студэнтам яшчэ цяжэй. Яны лепшага і не бачылі.

Прабачце.

**З павагай**
**Алена Таболіч**

# Дзе тыя буслы?

У Беластоцкім ваяводстве больш людзей памірае чым нараджаецца. Найгорш у вёсках. У пераважаючай колькасці гмінаў запісана адмоўны натуральны прырост; найбольшы ў гмінах: Міхалова, Бельск-Падляшскі, Сідра, Заблудаў, Боцькі, Орля, Шудзялава, Мілейчычы, Нурэц-Станцыя, Сямятычы, Нарва, Нараўка, Чыжы і Гайнаўка. У гарадах натуральны прырост, як правіла, станоўчы.

Беласток налічвае ўжо звыш 282 тысячы жыхароў і мае дадатны натуральны прырост.

На Беласточчыне пражывае каля 702 тысяч чалавек. Пераважаюць жанчыны. За мінулы год натуральны прырост склаў мінус 197 чалавек. У тым жа годзе нарадзілася 7 155 дзяцей, а памерла 7 352 асобы. ЗАГСы зарэгістравалі 3,5 тысячы цывільных шлюбаў.

**(гай)**

**Ніва**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

**Фрашкі пра нашых**

## Фантомы

Праведныя фантастычныя фанаты
Гатовы павывешваць, замест сваіх сцягоў,
На шнурках, пярэвяслах, канатах
„Ворагаў” сваіх, накасіць чужых галоў
Рукою шчырай і пасыпаць попелам
Чужога пакаяння, ссыпаным з крэматорыі
Ідэй і цел, свае галовы. Стварыць утопію —
Рэальную рэспубліку сваёй тэорыі.
Хваравлівая зараза запальчывасці
Шкодзіць найбольш людзям добрым з натуры,
Асабліва беларусам. Гэта горш вашывасці,
Бо на вошы ёсць атрута. І культура.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Чалавек

Канчаецца, вось, ужо век
І змяніўся чалавек.
Яшчэ нядаўна быў здаровы,
Цяпер кругом адны хваробы.

А ўладары, вось безгалоўе,
На бок адкінулі здароўе,
Цкуюць на жыда, яго пэйсы,
А народу толькі *эйдсы.*

Ніхто не бег яшчэ у НАТО,
Пра заходнія не чуў шматы.
Ніхто яшчэ не разумеў
Што *Унія* выверне нам свет.

Усё нішто, дзе хтось радзіўся,
Тая навука, што вучыўся —
Яна няварта фунта клакаў;
Магістрам звуць цяпер сабаку.

Ханжа у нас ужо ўладар,
Яму Бог даў вялікі дар:
Ён машынальна, на хаду,
Хрысціць усё: яду й ваду.

І горад ўжо ты не пазнаеш,
Якою вуліцай шагаеш;
Здаецца што ідзеш да Бога —
Кожная вуліца святога.

Цяпер у горадзе сваім
Чужы ты, быццам пілігрым,
Бо горад твой змяніўся ў рай:
Усё святое — толькі знай!

А ў галаве тады шум-шум,
Сэрца б'ецца бум-бум-бум,
Цёмна робіцца ў вачах;
Чалавеку проста страх.

І вось глядзіш: якісь прарок
Прасветліць хоча той твой мрок
І убівае у твой лоб,
Што паратункам табе гроб.

Мы свабоды дачакаліс,
Усяго свайго мы адцураліс.
Імкнемся мы бягом, галопам
У рай, на захад, у Еўропу.

**Ніна Мінько**

## Адказ на крыжаванку з 36 нумара

**Гарызантальна:** Псёл, Бенда, ігуана, Піяф, Фёдар, Аркона, Гуджарат, сілас, расплата, дэцылітр, склад, бравэрка, Дзюрэр, Азгур, „Уліс”, званар, вецер, ачаг.

**Вертыкальна:** Пецёфі, адвага, Суіджэрт, Ліфар, пункт, Юнона, Руселарэ, распіска, сідр, ліцо, файл, бард, Артэміда, Казбек, амулет, дзіва, Брант, Арура.

## Вацак Кот у ботах

Жыў у вёсцы Б. на Б. млынар Януар Пякарскі. Меў ёй трох сыноў — двух разумных, аднаго дурнейшага. Павучыў усіх, каб лягчэйшае жыццё мелі. Яшчэ нестары быў, як адчуў, што смерць ужо блізка, і склаў тастамент. Канстанціну пакінуў млын, Івану — поле і трактар, малодшаму Мікалаю — ката Базыля, званага Вацкам.

Аддаў бацька душу Богу. Пахавалі яго сыны з гонарам, распарадзіліся маёнткам. Косця збыў вятрак у скансэн, Ванюша прадаў суседу поле з трактарам ды паехалі ў свет, а Коля сядзіць на прызбе, глядзіць на свайго ката, калі той час ад часу вяртаецца з вандраванняў, і п'е, значыць, Коля, не кацiска, з гора.

— Нашто ты мне, коце, патрэбен! А я табе! — расплакаўся раз малады гаспадар.

Кот Базыль, Вацкам званы, прыжмурыў свае зялёныя вочы, падпёр лапай вусатую бывалую морду і з любасцю паглядзеў на пана.

— Ой, харрр-ррроршы ты, Коля, харрр-ррроршы. Шкада толькі, што дурнем цябе называюць. Казалі табе больш вучыцца — панам быў бы, а нябожчык тата даў бы табе болей. Шкада мне цябе, гаспадарыку, дай хоць табе на суцеху мышку прынясу на закуску...

— Не трэба мне тваіх мышак. Няма ў мяне больш грошай на гарэлку, і частаваць мяне, дурня, ужо ніхто не хоча...

— Нічога, штосьці выдумаем! Толькі абсталюй мне, Коля, боты малюсенькія, кашэчыя. Пайду, разглянуся па свеце, каб дзе падзейнічаць.

Пахадзіў Вацак Кот туды-сюды ў новых ботах, у капялюшыку, што застаўся ад скуркі на боты, зусім як падпанак нейкі, з'ездзіў нават у Беласток, у ваяводскіх справах разгледзеўся. Прывалок нават новы „Dziennik Ustaw”, знайшоўшы яго ў сметніку ваяводскага суда. Скарыстаў бы тое кніжышча Коля на распалку, калі б не схапіў яго Кот за дурную лапу:

— Чытай, дурню, калі нічога іншага не маеш да работы!

Праз тыдзень кінуў Вацак Колю з-над міскі супу з лебяды:

— Рэж, гаспадар, пячаткі. Засноўваем фірму дэратызацыі і дэзынсекцыі. Ты будзеш спецыяліст па мухах, блашчыцах і тараканах, я — па мышах і пацуках. Бухгальтарам будзеш ты, бо я матэматыкі не вучыўся, лічыць умею толькі да чатырох. Толькі глядзі, не пусці мяне ў шкарпэтках, бо я ўжо заінвеставаў грошы зробленыя ў Федзі Караля і ў Кашчэя Бяссмертнага з Б. Зрабіў вусную рэкламу па шасці гмінах, даў анонсы ў газеты па ўсёй краіне. Цяпер, уффф, магу гэтыя боты скінуць з лапаў! Рабі цяпер ты!

Фірма „M. Piekarski & B. Kot” дзейнічае паспяхова. Нядаўна вось вярнуліся са Скернявіцаў, дзе глушаць насякомых і грызуноў (скернявіцкая фірма дзейнічае ў нашым ваяводстве).

Вацак Кот і высватаў свайго супольніка. Думаў быў: Ілона Каралянка — дзеўка прыгожая і маентная, а, бачыце — змыла марафет з твару раніцай пасля вяселля — нават Вацак, на якім дзеўкі чалавечага роду ўражання ніякага не робяць, самлеў! А таго славутага багацця Каралёў з Б. — што кот наплакаў. Да таго ж пасадзілі Федзю Караля за махлярствы, на маёнтку руку паклаў фіскус. Добра, што хоць той Ілоне пятнаццацігадовы „Опель” астаўся! Але нічога, Колева фірма дае прыбытак, бо блох, блашчыц, тараканаў ды мышэй у нашай краіне хопіць хоць да канца свету!

**КУКША**

*P.S. Колькі зарабляюць М. П. і Б. К., чытайце ў дадатку „Praca” да „Gazety Wyborczej” (40/176, 9.10.1998, стар. 1-2).*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Нервуюся так, што не магу знайсці сабе месца! Дождж лье як з вядра, а мая жонка выйшла ў горад без парасона...

— Чаго ж так нервавацца? Напэўна яна схаваецца ад дажджу ў нейкай краме.

— Вось таму і так нервуюся, каб яна чаго там з паліцы не прыхапіла.

* * *

Жонка шые на машыне. Ззаду заглядае муж:

— Цяпер лявей, бліжэй берага, гусцейшым швом...

— Ці ты ашалеў!? Ты ж зусім не знаешся на шыцці...

— Я толькі адплачваюся табе за парады, якія ты падказваеш мне, калі вяду аўтамабіль.

* * *

Тры мужчыны сядзяць пры чарцы.

— Ведаеце, сябры, — кажа першы, — мая жонка мне здраджвае. Дадумоўваюся, што робіць гэта з уласнікам парфумерыі...

— Якія маеш на гэта прадпасылкі? — пытаюць сябры.

— Штораз на яе туалеце паяўляецца флакон дарагога французскага адэкалону; замала ў яе грошай, каб такое купляць.

— А ведаеце, — кажа другі, — і мая таксама мне здраджвае. Дадумоўваюся, што з уласнікам магазіна кветак...

— Якія маеш на гэта доказы?

— Дома штодзень паяўляецца букет свежых кветак; яе грошай на гэта не хапае.

— А ведаеце, — усклікае трэці, — мая жонка таксама мне здраджвае, і то дадумоўваюся з кім: з паліцыянтам!

— На якой аснове гэта падазраваеш?

— Калі толькі вяртаюся неспадзявана дадому, заўсёды на вешалцы вісіць паліцэйскі мундзір, а жонка варочаецца ў ложку з голым мужчынам.

* * *

Анкецёр праводзіць вулічнае апытанне на тэму: „Што такое любоў?”

Студэнт адказаў: Любоў, гэта такая хвароба, якая свае ахвяры кладзе ў ложак.

Лекар: Гэта не хвароба, на яе няма лякарстваў. Гэта перш за ўсё цяжкая праца.

Інжынер: Не, цяжкая праца непрыемная. Гэта, хутчэй, доўгі працэс.

Адвакат: Які працэс? Гэта мастацтва!

Артыст: Мастацтва? Смехата! Што гэта за мастацтва, якое можа выконваць кожны прафан? Гэта хутчэй за ўсё навука...

Прафесар: Гэта зусім не навука; гэта можа рабіць кожны студэнт, а я ўжо не магу.